www.nv-online.info

№ 96 (3939)

9 снежня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук



# В объятия к дракону

Россия и ее экономика все в большей степени занимают место, традиционное для Беларуси. Под влиянием экономических санкций США и Евросоюза, а также поддержавших их Канады, Австралии, Норвегии, Японии Россия оказалась в мировой изоляции. Ее экономику добивают падение мировых цен на нефть, что случилось не без участия США и некоторых арабских нефтедобывающих стран, милитаризация, война с Украиной, технологический бойкот Запада, бегство западного капитала. В ответ Кремль начал антисанкционную продовольственную войну, усилил государственный интервенционизм.

В России резко изменилась и общественно-политическая ситуация. Относительно независимые СМИ типа газеты “Коммерсантъ”, радио “Эхо Москвы” можно пересчитать по пальцам. Телепространство, которому еще хоть как-то можно доверять, сузилось до канала “Дождь”, для которого постоянно создают трудности, и канала MTVi. На российское телевидение уже давно не приглашают Б.Немцова, В.Рыжкова, И.Хакамаду, других известных оппозиционеров. Там правит бал В.Соловьев, ранее трудившийся и на Березовского, и на Гусинского, не сходит с экранов В.Жириновский. Там все чаще слышишь панегирики В.Путину. Вот один из последних. На заседании дискуссионного клуба “Валдай” первый замглавы президентской администрации В.Володин заявил: “Нет Путина — нет России сегодня”. Путин ни много ни мало стал символом страны. Знакомые песни, не правда ли? В политическом пространстве России в фаворе такие политологи, как известный шовинист К.Затулин, внук Молотова В.Никонов, который раньше стыдился родства с дедом, а теперь им козыряет. И другие деятели-флюгеры. Загнаны в интернетный андеграунд журналисты В.Шендерович, А.Невзоров. Словом, ельцинский период либерал-демократии окончательно канул в Лету. Потому-то из России в Украину давно сбежали такие популярные в свое время тележурналисты-политологи, как Савик Шустер и Евгений Киселев. В свое время отдельные белорусские и российские политики предупреждали о существовании угрозы “белорусизации” России. Как видим, совсем не зря.

Холодная война с Западом заставила Россию резко развернуться на 180 градусов в сторону Востока. Как следствие, отношения России и Китая быстро вышли на новый виток великой дружбы. Открывая в мае строительство газопровода “Сила Сибири”, Путин заявил, что в сотрудничестве “для наших китайских друзей ограничений нет”. Все, чего раньше китайцам было нельзя из-за опасения даже дыхания полуторамиллиардного людского колосса, теперь стало можно. По данным МВФ, “китайский дракон” нарастит ВВП в 2014 году до 17,6 трлн долларов и станет крупнейшей экономикой мира. Путин официально объявил Китай и Россию “естественными партнерами и союзниками”. В Кремле поспешили озвучить предложение “гармонизировать БАМ и Транссиб с Шелковым путем Китая”. Путь товаров из Шанхая в Роттердам через Сибирь удешевляется сразу на 25% по сравнению с тем, если везти их морями-океанами. Прозвучали грандиозные планы протянуть из Поднебесной через Восточную Сибирь скоростной путь в Северную Америку. Китайцы готовы разведывать в России нефтегазовые месторождения и бурить скважины. Они не прочь вложить в российский теплоэнергетический комплекс (ТЭК) порядка 20 миллиардов долларов. Хотят вкладывать также в российские химическую и металлургическую промышленность и авиапром.

Не так давно “Газпром” подписал с китайцами “контракт столетия” на освоение и поставку в Китай сибирского газа с Чаяндинского месторождения по вышеупомянутому газопроводу “Сила Сибири”. Причем цену поставки утаили от общественности. По мнению независимых российских аналитиков, эта затея может оказаться убыточной для России. Китайская нефтегазовая компания “Свинопек” приобрела половину “Удмуртнефти”, которая разведывает месторождения в Восточной Сибири.

(Окончание на 2-й стр)

ІНІЦЫЯТЫВА

## Акадэмік Радзім Гарэцкі абраны старшынёй Усебеларускага кангрэса за незалежнасць

Ужо больш за 100 прадстаўнікоў рэгіёнаў вылучаны на Усебеларускі кангрэс за незалежнасць, што мае адбыцца ў Мінску ў першай палове дня 21 снежня.

Зацверджаны парадак дня Кангрэса, склад яго камісій і спіс гасцей — выбітных дзеячаў беларускага нацыянальнага адраджэння, для каго незалежнасць з'яўляецца вялікай каштоўнасцю і хто сваім жыццём і ўчынкамі пацвердзіў гэта.

Падчас Кангрэса мяркуецца прыняць заяву аб неабходнасці яго пастаяннай працы. Такім чынам, Кангрэсу будзе нададзены статус пастаянна дзеючай пляцоўкі для вырашэння наспелых праблем нацыянальнага жыцця і існавання Рэспублікі Беларусь як незалежнай суверэннай дзяржавы.

Сустаршынямі Кангрэса абраны акадэмік Радзім Гарэцкі, старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Мечыслаў Грыб, педагог і кінарэжысёр Уладзімір Колас, былы суддзя Канстытуцыйнага суда першага складу, доктар юрыдычных навук Міхаіл Пастухоў, а таксама гісторык і грамадскі дзеяч Алег Трусаў.

На сёння памяшканне для правядзення Кангрэса ёсць, аднак яно разлічана максімальна на 120 чалавек, таму аргкамітэт займаецца пошукам большага памяшкання, каб размясціць усіх удзельнікаў.

На адрас аргкамітэта Кангрэса прыйшоў ліст ад старшыні Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ Зянона Пазьняка, які выказаў падтрымку дзейнасці па падрыхтоўцы і правяденні Кангрэса, а таксама зрабіў некалькі прапаноў да праекта Маніфеста. Ён, дарэчы, быў надрукаваны ў мінулым нумары “Народнай Волі”. Свае прапановы і заўвагі да дакумента і парадку дня Кангрэса можна даслаць на адрас электроннай пошты niezaleznasc@gmail.com.

ПРАТЭСТ

## Ультыматум Пуціну і Жырыноўскаму?

Падобна на тое, што супраць расійскіх чыноўнікаў, якія забаранілі пастаўкі на іх рынак мясамалочнай прадукцыі нашых прадпрыемстваў, скіравана акцыя шырокіх грамадскіх колаў Беларусі. Рэдакцыя “Народнай Волі” атрымала копію аднаго з калектыўных зваротаў да прэзідэнта Расіі У.Пуціна і дэпутата Дзярждумы У.Жырыноўскага. Чаго варта адна назва — **“Нота протеста” — народная**”. І абураюцца падпісанты сур'ёзна: *“Недружественные действия руководства РФ в отношении союзной Беларуси накануне президентских выборов-2015 в РБ продиктованы в первую очередь политическими причинами... Мы, граждане Союзного государства, поддерживаем миролюбивую политику президента РБ и не желаем втягивания Беларуси в конфликты и войны в угоду агрессивной политике РФ, поставившей мир на грань третьей мировой войны...”*

Президенту РФ Путину В.В.

В Госдуму РФ – Жириновскому В.В.

От граждан Союзного государства Беларуси и России
( ФИО с адресами, подписями ниже)

НОТА ПРОТЕСТА - НАРОДНАЯ. ( 77 человек на 3х листах )

(Против недружественных действий руководства РФ, и дестабилизации ситуации в Беларуси накануне выборов Президента РБ в 2015 г. путём запрета транзита и поставок в РФ мясо – молочной продукции белорусских предприятий)

Мы, граждане РБ и РФ Союзного государства Беларуси и России и Евразийского экономического союза и члены БРСМ и Белой Руси протестуем и возмущены недружественными поступками союзника – РФ в отношении союзника – РБ, так – как нынешнее руководство РФ наперекор желанию своих граждан ввело санкции (запрет) на поставки из Беларуси мясо – молочных продуктов, якобы из-за несоответствия их качеству и препятствует транзитным перевозкам.

Недружественные действия руководства РФ в отношении союзной Беларуси накануне Президентских выборов 2015 в РБ продиктованы, в первую очередь, политическими причинами, из-за непреклонной позиции руководителя Беларуси –
Алекс... против агрессии российских ...

Заканчваецца зварот ультыматумам: калі не спыніцца мясамалочная вайна, падпісанты звернуцца да беларускіх парламентарыяў з просьбай разгледзець пытанне аб прыпыненні членства Беларусі ў саюзных структурах і вывадзе расійскіх ваенных баз з тэрыторыі Беларусі.

Даслаў копію калектыўнага звароту ў рэдакцыю жыхар Магілёва Аляксей Паўлоўскі.

НАДВОР'Е

## І не восень, і не зіма

Сёння ўмовы надвор'я Беларусі будуць вызначаць атмасферны фронт і вільготная паветраная маса, якая паступае з паўднёвага захаду Еўропы.

Будзе воблачна з праясненнямі. Ноччу і раніцай на большай частцы тэрыторыі ападкі (снег, мокры снег). Днём месцамі невялікія ападкі. У асобных раёнах туман, галалёд. Вецер паўднёвы, днём з пераходам на паўночна-заходні, слабы. Тэмпература паветра мінімальная ноччу ад 0°С па паўднёвым захадзе да -7°С па паўночным усходзе; максімальная днём -4...+1°С. Атмасферны ціск будзе расці.

У бліжэйшыя дні 10 і 11 снежня ўмовы надвор'я будуць фарміраваць у асноўным усё тыя ж атмасферныя франты, якія ідуць з паўднёвага захаду Еўропы. Захаваецца няўстойлівае надвор'е. Месцамі кароткачасовыя ападкі, у асноўным мокры снег, туман, галалёд. Тэмпература паветра ўначы 0...-7°С, пры праясненнях -8...-10°С, днём -5...+1°С.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# Ледзь не «пракацілі»...

**У Мінску прайшоў IX справаздачна-выбарны з'езд Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў. У чацвёрты раз старшынёй БКДП стаў Аляксандр Ярашук, але гэтым разам пасада дасталася яму з вялікай цяжкасцю, ды і на з'ездзе прагучала нямала крытыкі на адрас кіраўніцтва.**

Ярашук быў адзіным кандыдатам на пасаду старшыні. Але нават пры галасаванні на безальтэрнатыўнай аснове здолеў набраць толькі каля 57 працэнтаў галасоў дэлегатаў з'езда. Больш за 40 працэнтаў дэлегатаў былі супраць пераабрання Ярашука. І гэта, можна меркаваць, не проста званок аб незадаволенасці дзейнасцю, гэта ўжо трывожны звон.



Так, Беларускі прафсаюз работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) можа выйсці са складу БКДП. Пра гэта паведаміў у інтэрв'ю БелаПАН старшыня прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч. Паводле яго слоў, прычына ў тым, што ў арганізацый — членаў аб'яднання розныя погляды на тое, як варта рэагаваць на выпадкі парушэння правоў працоўных у Беларусі.

*“Сёння незалежныя прафсаюзы павінны быць вялікай адзінай сям'ёй,* — кажа Фядыніч. — *Калі ў цябе праблемы, то ўсе павінны за цябе пастаяць. Калі праблема ў Бабруйску, мы ўсе павінны туды ехаць і, нягледзячы ні на што, праводзіць там, калі неабходна, забастоўкі і іншыя акцыі. Ініцыятыва павінна зыходзіць у першую чаргу ад кіраўніцтва кангрэса”.*

Генадзь Фядыніч лічыць, што пад кіраўніцтвам Аляксандра Ярашука кангрэс не зможа востра і дзейсна рэагаваць на выпадкі парушэння правоў працоўных. Нам патрэбны зусім новы погляд на незалежныя прафсаюзы. З гэтым кіраўніцтвам мы не бачым, што можа змяніцца ў палітыцы кангрэса, у канкрэтных дзеяннях у галіне абароны правоў працоўных, у першую чаргу нестандартных дзеяннях. А людзі чакаюць ад нас менавіта гэтага”, — сказаў Генадзь Фядыніч.

Як плануецца, кіруючы орган прафсаюза РЭП разгледзіць пытанне аб выхадзе з складу БКДП у лютым 2015 года.

### З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

У каментарыі для БелаПАН Аляксандр Ярашук заявіў, што сітуацыя, калі *“ёсць людзі, якія выказваюць нязгоду з метадамі кіраўніцтва БКДП, даказвае прыхільнасць кангрэса дэмакратычным прынцыпам”.*

*“Вострую дыскусію адносна таго, па якім шляху павінны ісці незалежны прафсаюзны рух, я ацэньваю выключна пазітыўна”,* — сказаў ён.

### ДАВЕДКА

Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў быў створаны ў 1993 годзе. Як адзначаюць у БКДП, сёння гэта *“адзіны ў Беларусі прафцэнтр, які адстойвае прынцыпы незалежнага прафсаюзнага руху, ідэалы свабоды і дэмакратыі ў краіне”.* У склад кангрэса ўваходзяць чатыры арганізацыі — Беларускі незалежны прафсаюз, Свабодны прафсаюз металістаў, Свабодны прафсаюз Беларускі і Беларускі прафсаюз работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці. Яго агульная колькасць дасягае каля 10 тысяч чалавек.

Што будзе з БКДП, калі з яго, па версіі Г.Фядыніча, выйдзе Беларускі прафсаюз работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці? Няўжо і незалежны прафсаюзны рух спасцігне раскол, як і некаторыя палітычныя партыі?

**Захар ШЧАРБАКОЎ.**

ПАЗІЦЫЯ

Алег ГАЙДУКЕВІЧ:

# «Давайце напішам прэм'ер-міністру, напішам прэзідэнту...»

## Як Ліберальна-дэмакратычная партыя Беларусі “дапамагала” рабочым, звольненым з Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў.

Як раней пісала “Народная Воля”, на пачатку лістапада з Бабруйскага завода звольнілі **Мікалая Жыбуля, Аляксандра Грамыку, Алега Шаўчэнку і Аляксандра Варанкіна**. Афіцыйная прычына — непрацягненне кантракта. Самі ж працаўнікі звязваюць сваё звальненне з сяброўствам у Свабодным прафсаюзе. Яны лагічна ставяць пытанне: навошта заводу, напрыклад, пазбаўляцца такога прафесіянала, як станочнік 4-га разраду Мікалай Жыбуль, які больш за 30 гадоў аддаў прадпрыемству, не меў за гэты час ніводнага спагнання, затое атрымаў ганаровае званне “Ветэран завода”? За два гады да пенсіі роднае прадпрыемства проста выкінула Жыбуля на вуліцу. Аддзячылі за працу?! Яшчэ адзін звольнены — Аляксандр Варанкін — наладчык 6-га разраду. На прадпрыемстве яго лічылі лепшым наладчыкам не толькі другога цэха, дзе Аляксандр працаваў, але і ўсяго завода. У звольненага наладчыка Аляксандра Грамыкі — 5-ы разрад. На іх месца — паведаміў учора старшыня незалежнага прафсаюза Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў **Міхаіл Кавалькоў** — узялі вучняў, якіх яшчэ трэба навучыць усім тонкасцям прафесіі. Ну дзе тут логіка? Што ні кажыце, а гэтыя звальненні сапраўды маюць палітычны падтэкст. Такая выснова ўскосна падмацоўваецца і далейшым развіццём падзей.

Пасля непрацягнення кантракта звольненыя работнікі спрабавалі прыцягнуць да гэтай сітуацыі ўвагу гарадскіх улад, асабіста кіраўніка Беларусі. Яны хадзілі на прыём да старшыні Бабруйскага гарвыканкама **Андрэя Каваленкі**, звярталіся з лістом да Аляксандра Лукашэнкі. Але станоўчых вынікаў не дабіліся. Мікалай Жыбуль паведаміў журналістам: “*Старшыня гарвыканкама так нам сказаў: “Куды хочаце, на любое прадпрыемства Бабруйска ўладкую вас на працу, але толькі не на Бабруйскі завод трактарных дэталяў і агрэгатаў*”. (Праўда, і па сёння звольненыя застаюцца беспрацоўнымі. — **М.Э.)**

Ад адчаю рабочыя абвясцілі галадоўку, якая доўжылася чатыры дні. Складана сказаць, ці меў гэты акт пратэсту шырокі рэзананс, але аднавіцца на працы ён не дапамог. Больш за тое, на пратэстуючых міліцыя склала пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні за правядзенне несанкцыянаванага мерапрыемства — галадоўкі. Таму не выключана, што звольненых работнікаў могуць яшчэ і пакараць штрафам — месяц з моманту складання пратаколу не мінуў, таму рана казаць, што справа закрыта.

Сярод тых, хто не без дапамогі “Народнай Волі” як быццам звярнуў увагу на галадоўку былых рабочых бабруйскага завода, аказаўся першы намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі **Алег Гайдукевіч**. На старонках нашай газеты, адказваючы на пытанні журналіста, Алег Сяргеевіч паабяцаў, што даручыць кіраўніку бабруйскай арганізацыі ЛДПБ вывучыць сітуацыю і па магчымасці дапамагчы звольненым. Аднак самі звольненыя сцвярджаюць, што ніхто з ЛДПБ да іх так і не звярнуўся, ніякай падтрымкі не выказаў і дапамогі не прапанаваў. Атрымліваецца, што словы Алега Гайдукевіча — балбатня, пусты гук? І мы вырашылі зноў патэлефанаваць маладому палітыку і спытаць, чаму так здарылася...

— Сітуацыяй са звальненнем у Бабруйску мы займаліся, — заявіў Алег Гайдукевіч. — Старшыня нашай бабруйскай арганізацыі яе вывучыў і прыйшоў да высновы, што канфлікт там ёсць, канфлікт спрэчны. Мне асабіста таксама ўсё зразумела: кіраўніцтва завода разам з ідэолагамі райвыканкама перастрахавалася. Звольненым трэба законным метадам дамагацца праўды, у тым ліку і ў Мінску. Але, на жаль, на сённяшні момант ніхто з іх ніякіх рэальных дзеянняў не прадпрымае. Усё пакуль на ўзроўні размоў і піяру. Больш трэба рэальных дзеянняў. Трэба прайсці нейкія этапы нават для таго, каб потым было што абскарджваць.

**— Я размаўляла са звольненымі, яны не бачаць сэнсу звяртацца ў суд. Кажуць, што такія прэцэдэнты былі: звольненыя раней з завода сябры Свабоднага прафсаюза спрабавалі праз суд аднавіцца на працы, але ў задавальненні іску ім было адмоўлена. Фармальна адміністрацыя закон не парушыла, за два месяцы супрацоўнікам паведамілі, што кантракт не будзе працягнуты. А вось чаму — у гэта суд не ўнікае ці не хоча ўнікаць...**

— Ніколі не трэба казаць, што былі прэцэдэнты, што бескарысна судзіцца, бескарысна кудысьці хадзіць. Гэта пустыя размовы. Трэба ісці сваім шляхам. Трэба самім нешта рабіць у гэтым жыцці.

**— Алег Сяргеевіч, я думаю, вы ведаеце, што такіх сітуацый са звальненнямі лепшых працаўнікоў у Беларусі шмат. Гэта не адзінкавыя выпадкі, гэта — тэндэнцыя. Дык, можа, не толькі самім звольненым, але ў першую чаргу палітычным партыям, апазіцыйным лідарам трэба біць у званы, патрабаваць адмены тых палажэнняў кантрактнай сістэмы, якія дазваляюць беспадстаўна звальняць добрых работнікаў. Фактычна — распраўляцца з імі, няўгоднымі...**

— Згодзен. Але для таго, каб потым хтосьці адказаў за свае дзеянні (а я ўпэўнены, што любое беззаконне караецца), спачатку трэба прайсці ўсе этапы барацьбы — гарвыканкам, аблвыканкам, суд. Упэўнены, што, калі потым у Мінску пісьмова прадставіць усе матэрыялы, будзе вынік.

**— Што значыць — у Мінску? Куды канкрэтна?**

— Хай да нас прыходзяць. Мы можам дапамагчы накіраваць усе гэтыя матэрыялы ў Адміністрацыю прэзідэнта, у адпаведныя органы, каб там узялі справу на кантроль, вывучылі. Невядома, каго яшчэ пакараюць.

**— У Адміністрацыю рабочыя звярталіся, ім адказалі, што ўсё ў рамках закона. У гарвыканкам звярталіся...**

— Давайце напішам прэм'ер-міністру, напішам прэзідэнту. Трэба падымаць запыт на больш высокі ўзровень.

**— У вас ёсць магчымасць пакласці гэты ліст асабіста на стол прэзідэнту?**

— Думаю, што калі за подпісам старшыні нашай партыі пойдзе ліст з просьбай разабрацца ў гэтай спрэчнай сітуацыі, ён будзе адназначна разгледжаны на больш высокім узроўні. Я не кажу, што прама ў прэзідэнта, але, напэўна, гэтая папера будзе ўзята на большы кантроль, чым звычайная заява. Гэта нармальная практыка, таму што дадзеная заява будзе падпісана лідарам буйной партыі. Але звольненыя рабочыя пакуль не прайшлі ўсе шляхі, толькі ліст кудысьці адправілі... І потым, а дзе незалежныя прафсаюзы? Замест таго, каб дапамагаць людзям, яны дзеляць гранты, перасварыліся паміж сабой, высвятляючы, які незалежны прафсаюз галоўны, а які негалоўны. Адзіны, хто займаецца адстойваннем правоў людзей, — гэта “Народная Воля”. Толькі вы мне патэлефанавалі. Вы мяне падштурхнулі, і я ўжо сам гатовы занесці паперу ў Генеральную пракуратуру... Адным словам, хай звольненыя да нас звяртаюцца. Выслухаем, складзём паперу і за подпісам старшыні партыі накіруем у тыя інстанцыі, у якія палічым патрэбным...

***

**Пасля гэтых слоў А.Гайдукевіча ў мяне адпала жаданне далей задаваць яму пытанні. Толькі задумалася над яго сцвярджэннем: “Старшыня нашай бабруйскай арганізацыі яе** (*сітуацыю.* — **Аўт.**) **вывучыў і прыйшоў да высновы, што канфлікт там ёсць, канфлікт спрэчны”. Скажыце, як можна зрабіць нейкія высновы, нават не сустрэўшыся са звольненымі М.Жыбулем, А.Грамыкам, А.Шаўчэнкам, А.Варанкіным? А што, самому Алегу Гайдукевічу цяжка было пад'ехаць у той жа Бабруйск і на месцы ва ўсім разабрацца? А парады** *“давайце напішам прэм'ер-міністру, напішам прэзідэнту”* **можа даць любая кухарка. Як і аднесці ліст у пракуратуру.**

**Вось і думай пасля гэтага: ці будуць паважаць рабочыя людзі такіх абаронцаў, як кіраўніцтва Ліберальна-дэмакратычнай партыі?**

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПО СЛУЧАЮ

# О чем пишут судьи...

*К 20-летию образования Конституционного суда Республики Беларусь вышел сборник научных статей судей и экс-судей Конституционного суда. В него включены статьи П.П.Миклашевича, В.Г.Тихини, Г.А.Василевича, А.В.Марыскина, К.И.Кеник, В.В.Подгруши, М.Ф.Чудакова и других. Однако нет ни одной моей статьи, хотя о работе Конституционного суда я писал много как в бытность судьей Конституционного суда (апрель 1994 — ноябрь 1996 г.), так и после освобождения от должности судьи.*

*Почему такая дискриминация? Не пришелся ко двору? Критикую деятельность нынешнего КС? Ответы очевидны. Такое игнорирование есть результат моей позиции по вопросам конституционной законности в стране. А точнее, отсутствия законности, начиная с проведения республиканских референдумов и до настоящего времени.*

*Так о чем пишут судьи КС?*

Нынешний председатель Конституционного суда П.П.Миклашевич пишет о том, что Конституция является ориентиром совершенствования правовой системы и конституционного контроля. По его мнению, Конституция должна быть “живой”, непосредственно влияющей на законотворческий процесс и правоприменительную деятельность с учетом вызовов сегодняшнего дня.

Правильная мысль. Но что имеем на практике? Формально Республика Беларусь провозглашена демократическим правовым и социальным государством. На самом деле ничего этого нет: ни настоящей демократии, ни реальной законности, ни должной социальной защиты. Более того, нет верховенства Конституции, хотя это вынесено в название сборника. Издаются и действуют президентские декреты, многие из которых прямо нарушают нормы Конституции (например, о введении принудительного труда на предприятиях деревообрабатываюшей промышленности, об объединении судов). А субъекты, уполномоченные стоять на страже Конституции, молчат. Как молчит и сам Конституционный суд, успокаивая общество в своих посланиях тем, что у нас все хорошо с конституционной законностью.

В таких условиях говорить о соблюдении конституционных прав и свобод граждан не приходится. Да, они провозглашены в полном объеме. Но вот воспользоваться ими нельзя. Государство даже отказывается от бесплатного лечения своих граждан.

Между тем П.П.Миклашевич “поет песню” о том, как Конституционный суд защищает права и свободы граждан. По его подсчетам, только за последние шесть лет КС было принято 240 решений, которые касались практически всех отраслей права. Ну и что? Какой результат?

В сборник вошла и статья первого председателя Конституционного суда В.Г.Тихини под заголовком “Разделение властей и конституционная юрисдикция”, опубликованная в журнале “Вестник Конституционного суда Республики Беларусь” еще до ноябрьского референдума 1996 года.

В ней содержится много интересных мыслей. Вот некоторые из них: *“Разделение властей предусматривает систему сдержек и противовесов, с тем чтобы свести к минимуму возможные злоупотребления и ошибки в управлении государством”; “Государственная власть должна быть связана правом, она не может ставить себя выше закона”; “Безнравственность любой власти начинается с нежелания ее представителей следовать закону”*.

Лучше не скажешь! Прямо классика, особенно последняя цитата. Если представители власти отказываются следовать законам, то такая власть скатывается в бездну, в беззаконие. Так оно и есть. Законы заменяются декретами и другими актами президента. В результате они, законы, в реалии утрачивают силу и значение. Законы пускаются в ход тогда, когда это сулит какието выгоды власти.

В.Г.Тихиня прав, когда утверждает, что разумной альтернативы правовому государству у нас нет и многие наши беды напрямую связаны с тем, что мы живем в неправовом государстве. Да, следует восстанавливать принципы правового государства (разделение властей, верховенство закона, соблюдение прав человека). Но для этого необходимо вернуться к Конституции 1994 года, которая, я считал и считаю, была незаконно отменена в результате референдума 1996 года.

Еще одна статья привлекает внимание. Она называется “Проблемы непосредственного действия конституционных норм о правах и свободах граждан в Республике Беларусь”. Ее автор — Г.А.Василевич. Он пишет, что Конституционный суд *“...снял по существу какие-либо ограничения в праве на судебную защиту. Каждый имеет право в соответствии со статьей 60 Конституции обратиться в суд за защитой своих прав и свобод независимо от того, принят ли соответствующий нормативный акт, закрепляющий судебную защиту, или нет”*.

Как бы не так! Во многих случаях суд дает от ворот поворот. Попробуйте обжаловать действия работников милиции или чиновников. Ничего не получится. К примеру, члены инициативной группы граждан, которые хотели зарегистрировать организацию сторонников реализации Международного пакта о гражданских и политических правах, не раз ставили перед судами вопрос о необходимости исполнения на территории Беларуси решений Комитета ООН по правам человека. И что? Во всех случаях суды отказывались рассматривать такие заявления.

Сам по себе отказ судов в рассмотрении жалоб граждан — это еще полбеды. Беда в том, что нет надежды на законное и справедливое решение. Далеко не всегда гражданин добьется правды в наших судах. Почему? Да потому, что на практике суды прежде всего стоят на защите интересов государства, а не конкретного человека.

Настоящие суды должны служить интересам людей. Для этого они должны назначаться не президентом, а избираться представительными органами: парламентом и местными Советами депутатов.

***

Еще много интересного можно сказать о статьях судей КС, бывших и нынешних. Объединяет их то, что все они пишут о важной роли Конституционного суда в деле защиты Конституции и прав граждан. Но верится в это с трудом. Не тот сейчас суд, да и судьи не те.

**Михаил ПАСТУХОВ, судья первого состава Конституционного суда Республики Беларусь.**

З-ЗА КРАТАЎ

## Міколу Статкевіча перавядуць з турмы ў калонію

*12 студзеня экс-кандыдата ў прэзідэнты Міколу Статкевіча павінны вярнуць у калонію.*

Пра гэта зняволены палітык паведаміў у ліставанні журналісту Барысу Вырвічу з Бялынічаў. Паводле інфармацыі Статкевіча, 12 студзеня наступнага года заканчваюцца тры гады турэмнага рэжыму, на які яго асудзілі.

Мікола Статкевіч — адзіны кандыдат ў прэзідэнты Беларусі, які дагэтуль знаходзіцца ў зняволенні. У маі 2011 года яго асудзілі нібыта за ўдзел у масавых беспарадках 19 снежня 2010 года.

Першапачаткова палітыка ўтрымлівалі ў шклоўскай калоніі №17, аднак у студзені 2012 года перавялі ў магілёўскую турму №4. Адміністрацыя калоніі палічыла, што Статкевіч “не стаў на шлях выпраўлення”, “да ўмоўна-датэрміновага вызвалення не імкнецца” і пасля адбывання пакарання мае намер “весці злачынны лад жыцця”.

Статкевічу неаднаразова прапаноўвалі напісаць прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі, але ён адмаўляецца.

ЧУЛІ?

## Хто спакусіцца?

*“Кобрынскі кансервавы завод” выстаўлены на продаж.*

З ліпеня 2007 года гэта найстарэйшае прадпрыемства Кобрыншчыны з’яўляецца банкрутам. Больш за дзясятак таргоў не прынеслі ніякіх вынікаў, таму работнікі амаль не вераць у светлую будучыню роднага завода. Зношанасць фондаў складае каля 60 працэнтаў, абсталяванне (за выключэннем лініі па вытворчасці кансерваў з зялёнага гарошку) — яшчэ савецкіх часоў, ужо двойчы сваё адпрацавала. Каму спатрэбіцца такое лам’ё?

Тым часам чарговы аўкцыён па маёмасным комплексе ААТ “Кобрынскі кансервавы завод” прызначаны на 18 снежня. Кошт лота ледзь перавышае 15 мільярдаў беларускіх рублёў. І адкрытым застаецца пытанне: “Як жа можна было давесці прадпрыемства да такога заняпаду?”

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

# В объятия к дракону

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

А глава “Роснефти” Сечин успел предложить Китаю долю в крупнейшем месторождении Восточной Сибири — Ванкорском. Нефти для китайцев Россия не пожалеет. Тем более что сама “Роснефть” под прессом снижения мировых цен на нефть просит помощи у правительства на десятки миллиардов долларов. А ведь еще недавно китайцев на пушечный выстрел не подпускали к торгам по поводу продажи “Сибнефти” или других нефтедобывающих компаний. Среди других сырьевых экспансий Поднебесной — покупка ряда лицензий на разработку золоторудных месторождений в Забайкалье и в Иркутской области, приобретение лицензий на добычу апатитов в Амурской области и Хабаровском крае. То, что русский лес валят и кругляком вывозят китайцы, уже мелочи. Российскому руководству невдомек, что Китай рассматривает Восток и Сибирь страны как свой сырьевой тыл, он готовится к открытому экономическому противостоянию с США и в его ближайших целях вернуть Тайвань. Китай и так самый крупный поставщик товаров в Россию, а Россия для него только тринадцатый по объемам партнер.

За 10 последних лет КНР инвестировала в мировую экономику 870 миллиардов долларов. Из них 228 миллиардов приходится на нефтегазовый сектор, 156 миллиардов — на электроэнергетику, 136 миллиардов — на горно-металлургическую и угольную отрасли. Лидерами по объему привлеченных китайских инвестиций являются США — 72 миллиарда долларов. В первую пятерку стран, экономика которых наиболее привлекательна для китайских инвесторов помимо США входят Австралия, Канада, Бразилия, Индонезия. В Австралию китайцы вложили 61 миллиард долларов в основном в активы горнорудной и угольной промышленности. 34 из 39 миллиардов долларов, инвестированных в Канаду, пошли в нефтегазовую отрасль. В эту же отрасль из 31 миллиарда долларов, вложенных в экономику Бразилии, направлено 18 миллиардов. Вместе с тем ряд сделок с Китаем, примерно на сумму 240 миллиардов долларов, был заблокирован правительствами стран. Они опасаются усиления китайских конкурентов на рынках. Нередко китайские компании, представляющие в основном интересы своего государства, инвестируют за рубежом не столько ради извлечения прибыли, сколько для трансферта на родину современных технологий соответствующих стран, для получения контроля над их природными ресурсами.

Не обошли китайские инвесторы своим вниманием и Беларусь. Большинство их инвестиций — это связанные кредиты в модернизацию объектов энергетики, промышленности и на строительство дорог. Так, в рамках создания Белорусско-Китайского индустриального парка создана СЗАО “Компания по развитию индустриального парка”, построена гостиница “Пекин”, китайская государственная компания Beijing Uni-Construction Group строит в Минске китайский квартал из 23 домов в микрорайоне “Лебяжий”. В любое время китайцев можно встретить в любом гипермаркете города.

Все страны противятся открытию филиалов зарубежных банков. Любая страна понимает: у кого деньги, у того власть. А в России сегодня китайцам — пожалуйста. В России без проблем, чего раньше не было, открываются представительства китайских государственных банков. Банк России заключил с Центробанком КНР соглашение на 24,5 миллиарда долларов. Государственный Россельхозбанк одолжил в КНР 300 миллионов долларов. В октябре правительство России позволило зарегистрировать “Чайнасельхозбанк”, за которым стоит Аграрный банк Китая, входящий в десятку крупнейших банков мира. Его капитал — 137 миллиардов долларов, что почти в три раза больше, чем у крупнейшего российского Сбербанка. В России уже прописался китайский банк и компания “АйСиБиСи” с капиталом 207 миллиардов долларов. Вскоре к нему присоединились “Банк Китая Элос” с капиталом 150 миллиардов и “Чайна констракшн банк” с капиталом 170 миллиардов долларов. Так ненароком денежно-финансовые драконы Поднебесной проглотят, не моргнув глазом, всю российскую банковскую систему. Китайские правительственные банки готовы финансировать строительство первой в России высокоскоростной железной дороги Москва—Казань, в чем китайские инженеры преуспели у себя дома. Общая стоимость проекта — 1 триллион российских рублей. Из них Пекин готов дать под проект кредитов не менее чем на 400 миллиардов рублевого эквивалента. Как известно, китайцы предпочитают так называемые связанные кредиты в виде поставки своего оборудования, своих материалов и рабочей силы. Скоро китайцы наводнят не только Дальний Восток и Сибирь, но и европейскую часть страны.

Следующей жертвой великой дружбы, как предупреждают местные аналитики, может стать доблестный российский автопром. Не так давно все китайские попытки освоить российский авторынок получали отпор. Опасения россиян были просты и понятны — дешевые китайские легковушки быстро разорят АвтоВАЗ. А сейчас опять, пожалуйста. Осенью начали строить заводы “Грейт Волл” под Тулой, подтянулись “Лифан” с производством в Ингушетии и “Дунфэн” в Елабуге. Китайский автопром рассчитывает продавать в России порядка 300 тысяч легковушек в год. В Беларуси освоена отверточная сборка (из машинокомплектов) автомобилей китайской фирмы “Джилли”, также с прицелом на российский рынок.

Как замечают российские эксперты, российско-китайское сотрудничество строится по принципу: наше сырье — ваши технологии. Доля сырья в товарообороте между странами уже превышает 60% и продолжает расти, тогда как доля машиностроения составляет менее 5%. Россияне вконец завалили свое гражданское самолетостроение, занимавшее в советские времена ведущие мировые позиции. Их авиалинии наводнили “Боинги” и “Эрбасы”. И сегодня они бездумно готовы передать китайцам технологии производства широкофюзеляжного дальнемагистрального Ил-96. И это будет технологическое сотрудничество только в одну сторону.

О важности технологического сотрудничества России именно с Западом говорит следующий факт. На шельфе Карского моря в российской Арктике открыто крупнейшее нефтегазоконденсатное месторождение. По самым скромным подсчетам, это около 87 миллиардов баррелей легкой нефти, что превосходит, по мнению специалистов, объемы соответствующих месторождений Мексиканского залива и месторождений арктического шельфа Канады и Аляски. С учетом новых арктических “Арабских эмиратов” Россия с нынешнего 7-го места в мире по разведанным запасам нефти (175 миллиардов баррелей) перемещается в первую тройку нефтевладельцев после Венесуэлы (295 миллиардов баррелей) и Саудовской Аравии (260 миллиардов баррелей). Ранее разведано в Баренцевом море крупное Штокмановское газовое месторождение. Но у России нет своих технологий для глубоководного бурения скважин. Все используемое оборудование — западного производства, на поставки которого наложено эмбарго. Тут и Китай не поможет. Пока же российское руководство возобновляет военное присутствие в арктической зоне. Реанимируется советская военная структура на Новосибирских островах. Путин дал поручение создать в Арктике единую систему базирования надводных кораблей и подлодок нового поколения и разместить там арктический спецназ.

Бездумное, безоглядное сотрудничество еще советского руководства с Китаем всегда было чревато неприятными последствиями. Вспомните, что Китай не без помощи СССР создал свое ядерное оружие, наводнил автоматами Калашникова весь мир. А потом Мао попер на остров Даманский на реке Уссури, и Советский Союз вынужден был стянуть к китайской границе серьезные военные силы. Китайцы — мастера копирования и без покупки всяких лицензий, в том числе вооружений. На парадах китайские ракеты везут тягачи — копии продукции Минского завода колесных тягачей. Недостроенный советский авианосец “Брежнев” был куплен у России и уже в строю китайских ВМС. Китайцы уже догоняют россиян и по созданию современных ВВС. Надо ли русскому медведю лезть в пасть китайскому дракону и назло Западу уши отмораживать? Об этом в самый раз подумать российскому руководству и российскому народу. И их союзникам тоже.

ЭКАНОМІКА

# Застой?

*У прамысловасці Беларусі назіраецца стагнацыя. Пра гэта гаворыцца ў справаздачы аб выніках апошняга апытання прамысловых прадпрыемстваў, якое правёў Навукова-даследчы эканамічны інстытут (НДЭІ) Міністэрства эканомікі.*

*“Вынікі лістападаўскага апытання сведчаць пра стагнацыю ў вытворчасці”*, — сказана ў дакуменце.

Як тлумачаць эканамісты, такая сітуацыя абумоўлена зніжэннем попыту на прамысловую прадукцыю.

*“Кан’юнктурнае апытанне кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў, праведзенае ў лістападзе гэтага года, зафіксавала зніжэнне фактычных аб’ёмаў вытворчасці прамысловай прадукцыі і далейшае скарачэнне попыту на яе, сярэдні перыяд забяспечанасці прадпрыемстваў заказамі не змяніўся”*, — гаворыцца ў справаздачы НДЭІ Мінэканомікі аб выніках праведзенага апытання.

Эканамісты адзначаюць, што скарачэнне попыту зафіксавана як на ўнутраным, так і на знешнім рынку. Прычым на расійскім рынку, удакладняюць эксперты, “зафіксавана даволі імклівае скарачэнне попыту” на беларускую прадукцыю.

Скарачэнне попыту, як паказала лістападаўскае апытанне прадпрыемстваў, прывяло да павелічэння складскіх запасаў.

### ДА ВЕДАМА

Стагнацыя — застой у эканоміцы, адсутнасць росту. Выяўляецца ў нізкіх (ці нулявых) тэмпах росту ВУП, высокім узроўні беспрацоўя, зніжэнні ўзроўню жыцця насельніцтва.

У перыяд стагнацыі структура эканомікі захоўваецца ў нязменным выглядзе, не адбываецца значных змен, звязаных з навукова-тэхнічным прагрэсам, эканоміка не ўспрымае новаўвядзенні.

Дакладных лічбавых значэнняў, якія характарызуюць перыяды эканамічнага росту і стагнацыі, не існуе, але традыцыйна пад нізкім тэмпам росту эканомікі разумеецца рост ВУП менш як на 2—3%.

Першую эканамічную тэорыю стагнацыі распрацаваў напрыканцы 1930-х гадоў XX века амерыканскі эканаміст кэйнсіянскай школы Элвін Хансен, увёўшы для апісання сітуацыі ў ЗША тэрмін secular stagnation — “векавы застой”. Ён лічыў, што на той момант эканоміка ЗША вычарпала фактары росту і ў агляднай перспектыве не зможа самастойна вырвацца з застою. На яго думку, для аднаўлення росту было неабходна павялічыць дзяржаўныя выдаткі, дапусціўшы пастаянны высокі ўзровень дэфіцыту дзяржаўнага бюджэту. Здагадкі Хансена не пацвердзіліся: эканоміка ЗША пачала расці ўжо ў 1940 годзе, і яго ідэі былі забыты.

Эканамічная стагнацыя назіралася і ў СССР. Тэрмін “застой”, аналагічны паняццю “стагнацыя”, адносіцца да часу праўлення ў СССР Леаніда Брэжнева (1964—1982 гады) і яго паслядоўнікаў — аж да XXVII з’езда КПСС (люты 1986). Тады і прагучаў упершыню выраз “застойныя з’явы”, які сталі выкарыстоўваць, характарызуючы ўсю эпоху “позняга СССР”. Як зараз высвятляецца, Беларусь пайшла тым жа шляхам.

### У ТЭМУ

**Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў важнейшыя параметры прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь і асноўныя накірункі грашова-крэдытнай палітыкі на 2015 год.**

**Прагназуецца, што тэмп росту валавога ўнутранага прадукту складзе 0,2—0,7%. Прычым у прамысловасці — 0,4—0,8%, сельскай і лясной гаспадарцы — 1,2—1,4%, сферы паслуг — 1,6—2%.**

**Выходзячы з прагнозу зніжэння сукупнага попыту ў Расіі, дынамікі сусветных цэн, паказчык экспарту тавараў і паслуг панізіцца ў параўнанні нават з гэтым годам і складзе 96—96,4%.**

**Плануецца, што дэфіцыт знешняга гандлю таварамі і паслугамі складзе 3,3—3,5%.**

**Узровень інфляцыі прагназуюць знізіць да 12%.**

ГУЧНЫЯ СПРАВЫ

## Крыміналу не знайшлі

Следчы камітэт скончыў праверку з нагоды смерці 16-гадовага жыхара Рэчыцы. Нагадаем, што хлопца знайшлі павешаным у будынку рэлігійнай абшчыны “Сведкі Іеговы”.

Падчас праверкі выявілася, што 25 жніўня ў другой палове дня непаўналетні хлопец пайшоў наведаць парадак у доме, які належыць абшчыне. Яго знайшлі павешаным у будынку. Дзверы дома былі знутры закрыты на ключ.

Як паведамляе БЕЛТА, пры аглядзе была канфіскавана перадсмяротная запіска з рукапісным тэкстам. Падлетак напісаў бацькам, што ён вырашыў скончыць жыццё самагубствам з-за сваіх непрыстойных учынкаў.

Праверка выявіла, што ў хлопца былі складаныя ўзаемаадносіны з дзяўчынай, якая таксама наведвала сходы абшчыны. Паміж імі не раз узнікалі канфлікты, у тым ліку на глебе рэўнасці хлопца. Пасля сварак школьнік не раз выказваў дзяўчыне намер скончыць жыццё самагубствам.

Следчыя прыйшлі да высновы, што смерць не носіць крымінальнага характару і з’яўляецца суіцыдам.

# Крок у адказ

Як гром сярод яснага неба прагучала навіна пра тое, што беларускі КДБ арыштаваў аглядальніка газеты “Белорусы и рынок” **Аляксандра АЛЕСІНА** — аднаго з нешматлікіх айчынных журналістаў — экспертаў па ваеннай тэматыцы. Прычым відавочна, што па роду заняткаў Алесін не меў доступу да якой-небудзь сакрэтнай інфармацыі.

Як высвятляецца, 25 лістапада журналіст не прыйшоў на працу. Не прыйшоў і на наступны дзень... Чалавека не было некалькі дзён, але маўчалі і сям’я, і калегі па рэдакцыі. Але шыла ў мяшку не схаваеш. Вечарам 4 снежня ў сацыяльных сетках пачала распаўсюджвацца інфармацыя пра тое, што Аляксандр Алесін апынуўся ў следчым ізалятары КДБ. Аднак афіцыйна Камітэт дзяржбяспекі на момант напісання гэтага матэрыялу інфармацыю так і не пацвердзіў. Аднак і не абверг. Няма ніякіх афіцыйных каментарыяў і наконт прычын затрымання.

Калегі Алесіна па рэдакцыі неафіцыйна гавораць, што і самі толкам нічога не ведаюць. Кажуць толькі, што арыштавалі Алесіна не на працы. Ды і на яго працоўным месцы ў рэдакцыіператрусу не было. Усё, што яны змаглі паведаміць, — што спачатку былі спадзяванні: маўляў, “там” разбяруцца і журналіста адпусцяць бліжэйшым часам. Але чым больш сутак праходзіла ад моманту затрымання, тым менш заставалася аптымізму.

Такім чынам, атрымліваецца, што ў “амерыканцы” Аляксандр Алесін знаходзіцца ўжо два тыдні. Згодна з заканадаўствам, калі ў першыя 10 сутак утрымання пад вартай падазронаму не прад’явілі абвінавачання, то тэрмін могуць падоўжыць да 20 сутак.

Тым часам сваякі Аляксандра Алесіна таксама не валодаюць інфармацыяй наконт яго справы. Спатканняў не было, лістоў яны не атрымлівалі. **Учора ў КДБ ім паведамілі, што, магчыма, у другой палове дня яны даведаюцца нешта больш канкрэтнае. Чакалі цэлы дзень…**

Разумеючы, што бессэнсоўна рабіць выгляд, нібы нічога не адбылося, у апошнім нумары газеты калегі Алесіна напісалі: *“У журналісцкіх колах Алесін мае бездакорную прафесійную рэпутацыю, за што ўдастойваўся ўзнагарод. Пры напісанні матэрыялаў ён заўсёды абапіраецца на адкрытыя крыніцы. Затрыманне нашага калегі мы лічым непаразуменнем і спадзяемся, што ў самы бліжэйшы час Алесін выйдзе на свабоду і вернецца да працы ў рэдакцыі”.*

Сапраўды, Аляксандра Алесіна ведаюць як добрага ваеннага аналітыка. Ён быў пераможцам Гран-пры прэміі “Залатое пяро” 2008 года сярод журналістаў, якія спецыялізуюцца на аўтамабільнай тэматыцы ў дзелавых і рэспубліканскіх СМІ. Зразумела, што арышт такога журналіста выклікаў вялікі розгалас у прафесійных колах.

ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” разам з праваабаронцамі заклікала КДБ паведаміць грамадскасці прычыну затрымання Алесіна і патлумачыць, у чым яго абвінавачваюць. У заяве нагадваецца, што інфармацыя аб затрыманні, змяшчэнні чалавека пад варту, “*сутнасці падазрэнняў і абвінавачанняў, працэсуальным статусе, месцы ўтрымання і іншых аспектах, якія не маюць дачынення да дэталяў крымінальнага пераследу, не можа парушаць тайну следства і не паставіць пад пагрозу інтарэсы дзяржаўнай бяспекі і аховы грамадскага парадку*”.

Рэакцыі на заяву на ўчарашні дзень не было. Паводле неафіцыйных звестак, Алесіна нібыта затрымалі па падазрэнні ў “здрадзе Радзіме”. Па сутнасці, гэта той самы шпіянаж. Вось толькі па нашым законе “шпіянаж” — гэта артыкул для грамадзян іншай дзяржавы, а “здрада” — для грамадзян Беларусі.

Звяртае на сябе ўвагу і вось якое супадзенне. Менавіта ў дзень, калі стала вядома пра затрыманне Аляксандра Алесіна, кіраўнік Камітэта нацыянальнай бяспекі Літвы **Артурас ПАЎЛАЎСКАС** абвясціў, што літоўскія спецслужбы нанеслі сур’ёзны ўдар па сетцы беларускіх шпіёнаў. Калі верыць яго словам, то беларускія разведчыкі шукалі сярод літоўскіх грамадзян людзей, якія “гатовы працаваць на іх, прадаваць таямніцы Літоўскай Рэспублікі”. Але літоўская контрразведка выкрыла гэтую сетку. Артурас Паўлаўскас сцвярджае, што гаворка ідзе пра разведчыкаў Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Генштаба Узброеных сіл Беларусі... Назіральнікі не выключаюць, што арышт беларускага журналіста мог стаць крокам у адказ.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ФОТАФАКТ

## Страшная сіла

*У Мінску прайшоў чэмпіянат па нарошчванні веек.*



Дарэчы, майстроў гэтай тонкай справы называюць лешмейкеры. Яны займаюцца не толькі вейкамі, але і ўсімі працэдурамі ў вобласці вачэй. У індустрыі прыгажосці гэта новая прафесія.

АСОБА

# Правілы выжывання палітвязня Кукабакі

*З снежня вядомы савецкі дысідэнт беларус Міхась Кукабака адзначыў 78-ы дзень народзінаў. Ніводная згадка пра яго ў медыя не абыходзіцца без біяграфічнага радка: "У савецкі час каля 17 гадоў правёў у псіхбальніцах, турмах і лагерах".*

*На долю Міхася Ігнатавіча выпалі чатыры палітычныя судзімасці за "антысаветчыну". І, як ён сам любіць часам заўважыць, прайшоўшы тры псіхушкі, сем лагераў, турму і звыш дваццаці перасылак, змог захаваць галаву без аніводнага шнара ці драпіны, хаця паўсюль была патэнцыйная небяспека...*

*Як у жахлівых турэмна-лагерных умовах чалавеку ўдалося зберагчы сябе?*

*Міхась Кукабака распавёў пра свае правілы выжывання.*



## Заўжды надаваў галоснасць самаўпраўству турэмнага начальства

Скарыстоўваў усе магчымыя метады — законныя ці незаконныя з іх пункту гледжання — для перадачы на свабоду інфармацыі аб розных парушэннях з боку адміністрацыі. Гэта вельмі важна. Бо любы прадстаўнік адміністрацыі, як і любы кіраўнік дзяржавы, дбае пра свой імідж, хоча, каб яго паважалі.

## Трымаўся па магчымасці годна

У стасунках з адміністрацыяй, лічу, заўсёды трэба ўлічваць псіхалогію асобнага чалавека, ні пры якіх абставінах нельга нікога абражаць. Максімальная вытрымка і годнасць. Адказваць — годна, абараняючы сваю пазіцыю, але не правакаваць. Таму што зэк безабаронны, а прадстаўнік адміністрацыі можа беспакарана пераступіць закон — збіць цябе, па сваёй волі лішні раз змясціць у карцар, што вельмі падрывае здароўе.

## Да галадовак пратэсту не прыбягаў

Лічу, што не варта рызыкаваць сваім жыццём. У турме трэба прыкладаць максімальныя намаганні для таго, каб захаваць сваё здароўе, каб выжыць. Галадоўка, як правіла, не дае выніку, чалавек толькі скарачае сваё жыццё і час сваёй актыўнай дзейнасці. Бо сапраўдная дзейнасць — яна на волі. І ёсць розныя таму прыклады. У часы Тэтчар людзі, галадаючы, адзін за адным сыходзілі ў іншы свет і нічога не дамагліся *(сумнавядомая ірландская галадоўка 1981 года.* — **Рэд.**). У брэжнеўскія часы, у мой час, людзі галадалі, падрываючы здароўе, і нічога не дамагліся. Да прыкладу, трагічная гісторыя таго ж Анатоля Марчанкі *(вядомы савецкі дысідэнт і палітвязень, які ў 1986 г. галадаў у лагерах 117 дзён з патрабаваннем вызваліць усіх палітвязняў у СССР. Яго смерць мела шырокі рэзананс у СССР і ў замежжы. Паводле адной з версій, рэакцыя на яго смерць падштурхнула М.Гарбачова пачаць вызваленне палітвязняў.* — **Рэд.**). Потым ужо казалі, што дзякуючы яму сталі кагосьці вызваляць, — гэта ўсё міфы. Такая была палітыка Гарбачова — рана ці позна ўсіх вызваліць, таму што перабудова прадугледжвала змены ў палітычнай сістэме.

## У выпадках ціску ішоў да апошняга

Усімі даступнымі спосабамі супрацьстаяў ціску з боку адміністрацыі: пісаў скаргі, выклікаў пракурора і да т.п. Будзеш трываць — будзеш тым самым заахвочваць такія дзеянні адміністрацыі. Неяк падлічыў, што, калі сядзеў у бабруйскім ізалятары, за восем месяцаў прыкладна кожныя тры дні ад мяне была скарга. І рана ці позна нейкі эфект ад гэтага будзе. У рэшце рэшт, паміж імі таксама ёсць канкурэнцыя за пасаду, напрыклад, хтосьці камусьці не падабаецца, і на гэтым можна згуляць.

## Без пагарды ставіўся да іншых зняволеных

У бытавой зоне адміністрацыі з мэтай ціску спрабавалі выкарыстаць сваіх "давераных", але ж лагер заўсёды складаецца з розных людзей. І тут ужо шмат залежала ад умення ладзіць з імі. Якім бы ты ні быў — высокаадукаваным, паліглотам, фізікам, лірыкам або кімсьці яшчэ, — не трэба выказваць пагарду, панства да іншых. Гэта вельмі адчуваецца і балюча ўспрымаецца імі — на шкоду табе. Тут трэба быць паблажлівым да чужых недахопаў, упэўненым у сабе і трымацца на роўных.

## Не адмаўляў у дапамозе іншым вязням

Лічу, што не варта спецыяльна прыкладаць намаганні, каб займець аўтарытэт сярод вязняў. Ён заваёўваецца інакш. Скажам, ёсць непісьменныя зняволеныя, якія не ведаюць, як скласці скаргу. Звяртаюцца — заўсёды ідзі насустрач, дапамажы, дай параду ненавязліва. І гэтая дапамога — не кулакі, не лаянка — вельмі падвышае твой аўтарытэт. Сама сабою паўстане абарона ад усялякіх правакатараў. У мяне такія моманты былі, да мяне часта звярталіся, і я нават стараўся неяк прынізіць свае магчымасці, бо я ж не юрыст. Але ў меру сваіх магчымасцяў ніколі нікому не адмаўляў. І неяк карыстаўся павагай, нягледзячы на тое, што не прызнаваў усялякіх іх законаў, палемізаваў.

## Заўжды разлічваў на горшае

Гэта такая псіхалагічная перастрахоўка. Я ніколі не прымяншаў магчымыя наступствы сваёй дзейнасці.

## Салідарнасці ў турэмных сценах не адчуваў, але яе значэння не прымяншаю

Лічу, што застаўся жывы і досыць здаровы менавіта дзякуючы таму, што на волі было шмат людзей і арганізацый, якія так ці інакш назалялі ўладзе наконт мяне. Такі пастаянны ціск на ўладу замінае ёй залішне праяўляць самаўпраўства. Таму, паўтару, вельмі важна з месцаў зняволення, нават калі цябе за гэта караюць, перадаваць інфармацыю на волю... Знаходзячыся ў зоне, я зусім не ведаў пра тыя кампаніі, якія праводзіліся ў маю падтрымку. А апекаваліся мною тры групы Amnesty International — дацкая, англійская і аўстрыйская. Лісты да мяне не даходзілі. Праўда, быў выпадак, калі літаральна за тыдзень да сканчэння тэрміну мне прыйшла паштовачка з Даніі — адзіная за ўсю маю лагерную эпапею, і тое таму, што тады яшчэ ваганіся — выпускаць мяне ці не. Але праз тыдзень далі новы тэрмін...

### АСАБІСТАЯ СПРАВА

**Кукабака Міхаіл (Міхась) Ігнатавіч** — савецкі дысідэнт, былы палітвязень, адбываў пакаранне ў 1970—1976 і 1978—1988 гадах), праваабаронца і публіцыст. Арыштоўваўся чатыры разы па палітычных абвінавачаннях і правёў у турмах і спецпсіхбальніцах турэмнага тыпу ў суме каля 17 гадоў. Гэта самы вялікі вядомы сумарны тэрмін зняволення для ўдзельнікаў дысідэнцкага руху ў СССР.

Нарадзіўся 3 снежня 1936 года ў Бабруйску. Беларус. У час вайны страціў бацькоў, выхоўваўся ў дзіцячым доме. Атрымаў сярэднюю адукацыю і прафесію электраманцёра. Працаваў на прадпрыемствах і будоўлях народнай гаспадаркі ў розных рэгіёнах СССР: у Сібіры, Узбекістане, Казахстане, Украіне, Беларусі, Расіі, жыў у рабочых інтэрнатах. Служыў у арміі (у Забайкаллі і на Далёкім Усходзе). Паступіў ва Усесаюзны завочны політэхнічны інстытут (ВЗПІ) на інжынерны факультэт, але не скончыў яго.

У 1968 годзе М.Кукабака адкрыта выказаў нязгоду з увядзеннем савецкіх войскаў у Чэхаславакію для падаўлення "Пражскай вясны". Ён накіраваў ліст у чэхаславацкае консульства з пратэстам супраць уварвання Савецкай арміі ў ЧССР. Напрыканцы жніўня 1968-га пры выкліку ў Кіеўскі ваенкамат заявіў яго супрацоўнікам: "Уздумаеце паслаць у Чэхаславакію — павярну аўтамат супраць вас, супраць акупантаў, і выступлю на баку народа".

У 1969 годзе М.Кукабака напісаў адкрыты ліст англійскаму пісьменніку Айвару Мантэгю ў абарону пісьменніка Анатоля Кузняцова, які хацеў апублікаваць у газеце "Комсомольская правда". Аднак замест газеты ліст апынуўся ў КДБ СССР. Кукабака быў арыштаваны ў красавіку 1970 года. Прыператрусе ў інтэрнаце завода ў яго тумбачцы чэкісты знайшлі сшытак з запісамі, з якога высветлілі, што Кукабака падтрымлівае дысідэнтаў Салжаніцына і Сахарава. Акрамя ліста Мантэгю Кукабаку ставіліся ў віну такія ўчынкі: выхад з прафсаюза, адкрытая адмова ўдзельнічаць у выбарах, суботніках і г.д.; асобныя выказванні ў прыватных размовах (кваліфікаваныя як "вусныя выдумкі"). Каля двух гадоў Кукабака правёў у адзіночнай камеры Уладзімірскай турмы. Псіхіятры прыйшлі да высновы, што Кукабака "па характары ўчыненых грамадска-небяспечных дзеянняў уяўляе асаблівую небяспеку для грамадства". Каля трох гадоў свайго тэрміну зняволення Кукабака адбываў у Сычоўскай спецпсіхбальніцы, вядомай суровымі ўмовамі ўтрымання іншадумцаў. Прысуд па справе быў вынесены завочна 4 лістапада 1970 года, падсудны змог упершыню азнаёміцца з ім толькі праз 20 гадоў.

Вызвалены ў 1976 годзе. Пасля вызвалення М.Кукабака працаваў грузчыкам на заводзе ў Бабруйску. Восенню 1976-га і ўвосень 1977-га падвяргаўся гвалтоўнай шпіталізацыі ў абласную псіхбальніцу. Першы раз — за распаўсюджванне тэксту Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, другі раз — за адмову зняць са сцяны над ложкам у заводскім інтэрнаце Усеагульную дэкларацыю, абразок і фатаграфіі дысідэнтаў Андрэя Сахарава і Пятра Грыгарэнкі.

У 1970-х гадах Кукабака выступіў аўтарам шэрагу твораў, якія распаўсюджваліся ў самвыдаце — "Нататкаў аб Сычоўскай псіхбальніцы" (1976 год), артыкула "Міжнародная разрадка і правы чалавека — непадзельныя" (1977 год), адкрытага ліста міністру аховы здароўя СССР Барысу Пятроўскаму аб псіхіятрычных рэпрэсіях у СССР (1977 год), адкрытага ліста старшыні КДБ СССР Юрыю Андропаву (1978 год), нарыса "Скрадзеная радзіма" (1978 год). Выступаючы ў падтрымку створанага ў 1977 годзе Свабоднага прафсаюза, Міхаіл Кукабака накіраваў у лютым 1978-га Адкрыты ліст кіраўніку СССР Леаніду Брэжневу; ён прыводзіць там прыклады грубага парушэння тэхнікі бяспекі і іншых ушчамленняў правоў працоўных, з якімі ён сутыкаўся ў сваёй практыцы, сцвярджае, што "дзяржаўны прафсаюз пакрывае злоўжыванні ўлад", і пратэстуе супраць пераследу арганізатараў Свабоднага прафсаюза. Подпіс М.Кукабакі стаіць пад шматлікімі калектыўнымі праваабарончымі дакументамі тых часоў.

У 1977-м заявіў аб адмове ад грамадзянства СССР.

У кастрычніку 1978 года быў паўторна арыштаваны і ў 1979 годзе зноў асуджаны (ужо беларускім судом) па артыкуле "Загадзя лжывыя выдумкі, якія ганяць савецкі дзяржаўны і грамадскі лад") на 3 гады пазбаўлення волі. У зняволенні ў 1982 годзе зноў асуджаны Ліпецкім абласным судом па тым жа артыкуле яшчэ на тры гады. Зноў арыштаваны 11 кастрычніка 1984 года і 7 сакавіка 1985 года асуджаны Віцебскім абласным судом па артыкуле 67, ч.1 КК БССР ("Антысавецкая агітацыя") да шасці гадоў лагераў і 4 гадоў высылкі з далучэннем неадбытага тэрміну. Тэрмін адбываў у калоніях строгага рэжыму Мардовіі і Пермскай вобласці.

Вызвалены 2 снежня 1988 года, згодна з указам аб памілаванні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 30 лістапада 1988 года. Міхаіл Кукабака быў апошнім палітычным вязнем, які пакінуў папраўчую калонію, вядомую як "Перм-36". Рэабілітаваны 23 студзеня 1991 года Вярхоўным Судом БССР. У тым жа годзе вярнуўся ў Беларусь, працягнуў актыўны ўдзел у праваабарончай дзейнасці. Аднак у Магілёве мясцовае кіраўніцтва горада не змагло прадаставіць Кукабаку нават пакой у інтэрнаце, пасля чаго ён пераехаў у Маскву.

## Не пісаў прашэнні пра памілаванне

На мяне ўвесь час ціснулі, з тым каб я папрасіў пра памілаванне. Я быў абсалютна перакананы, што мяне судзілі незаконна з пункту гледжання міжнародных прававых нормаў. Умова памілавання прапануе прызнанне сваёй віны. І навошта я буду звяртацца з просьбамі — прабачце, маўляў, вінаваты? Па-першае, я абгаварыў бы самога сябе, па-другое, падвёў бы ўсіх людзей, якія мне верылі і спрабавалі дапамагчы. Таму, калі пры вызваленні я ў паперах прачытаў "памілаванне", для мяне гэта было абразай.

## З аптымізмам глядзеў у будучыню

Патрапіў у турму — жыццё спынілася? Ды не, вядома ж. Чалавек хоча жыць, дзейнічаць, быць карысным людзям. Усялякім турмам, кратам, тэрмінам усё-ткі прыходзіць канец... Трэба верыць. Хоць, зноў-такі для псіхалагічнай самаабароны пераконваў сябе: маўляў, добра, няхай усё жыццё прасяджу, але вы мяне не зламаеце. Нават гэты элемент барацьбы надаваў упэўненасці ў сваіх сілах і аптымізму.

*Spring96.org*

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# *Толькі за электрычнасць заплацілі паўтара мільёна рублёў*

***Рахункі за камуналку ў дамах, дзе ніхто не прапісаны ці прапісаны адзін чалавек, дасягаюць велізарных сум.***

*— Атрымалі жыроўку за кастрычнік і ўзяліся за галаву,* — патэлефанаваў у "Народную Волю" ўладальнік катэджа пад Мінскам, у якім жыве яго сям'я, але ў доме ніхто не прапісаны. — *Справа ў тым, што з 1 верасня дзейнічаюць новыя тарыфы на камуналку ў дамах і кватэрах, дзе ніхто не прапісаны. За верасень заплацілі амаль як звычайна. А вось зараз, калі пачаўся ацяпляльны сезон, камуналка пацягнула больш за 3 мільёны. Толькі за электрычнасць заплацілі паўтара мільёна, за газ — яшчэ два мільёны з хвосцікам. У нас жа няма льготных тарыфаў на 150 кВт·г, за ўсё спажытае святло плацім па стопрацэнтным тарыфе — амаль паўтары тысячы за 1 кВт·г. У доме два бойлеры для нагрэву гарачай вады, частка падлогі на першым паверсе з падагрэвам. За газ — 2362 рублі за 1 метр кубічны, а мы спалілі тысячу кубаметраў. Наша сям'я не асабліва багатая, даходы сярэднія, участак гэты застаўся ад цесця, дом пабудавалі невялікі. Мы прапісаны ў бацькоўскай мінскай кватэры жонкі, таму што так зручней у бытавым плане — прымацаваны да гарадской паліклінікі, да школы. За кватэру таксама жыроўка прыйшла немаленькая. Так што цяпер камуналка для нашай сям'і — велізарная частка выдаткаў. Трэба, канешне, тэрмінова прапісвацца ў дом... Хаця усё роўна тарыфы цяпер вельмі высокія. Мая мама жыве ў райцэнтры, у прыватным доме з газавым ацяпленнем. Жыве адна, бацька памёр. Ёй давялося заплаціць за кастрычнік 350 тысяч за газ, хаця карыстаецца яна ім вельмі эканомна. З жахам чакае зіму. Таму што ўжо цяпер газ, святло і лекі — гэта амаль палова яе пенсіі.*

Як вядома, яшчэ ўлетку з'явілася ўрадавая пастанова, згодна з якой у кватэрах і катэджах, у якіх ніхто не прапісаны, плаціць за святло і газ прыйдзецца па 100-працэнтных тарыфах. Дзейнічаюць новыя тарыфы з 1 верасня. Напрыклад, 1 кВт·г электраэнергіі ў доме, дзе ніхто не прапісаны, каштуе 1467,5 рубля. Калі зарэгістраваны адзін жыхар і ў доме ёсць электрапліта — 696 рублёў за 1кВт·г, калі электрапліты няма — 818,9 рубля. Газ разлічваецца ў дамах, дзе ніхто не прапісаны, але ёсць прыбор уліку газу, зыходзячы з 2362 рублёў за 1 метр кубічны.

Дарэчы, ва ўрадзе разглядаецца пытанне адмяніць ільготныя тарыфы на электраэнергію і для садаводчых таварыстваў. Сёння пад Мінскам нямала пасёлкаў, якія афіцыйна лічацца дачнымі, але там пабудаваны сучасныя домы з вадой, каналізацыяй, у пасёлкі нават падведзены газ. Праўда, на газ у садовых таварыствах ўжо дзейнічае стопрацэнтны тарыф. А на электрычнасць пакуль прадугледжаны льготныя тарыфы — 818,9 рубля за 1 кВт·ч.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДАРЭЧЫ

## *«Камуналка» падаражэла*

З 1 снежня тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі, якія субсідзіруюцца, выраслі на 5,8%. Цэны на газ, электрычнасць і цеплавую энергію праіндэксаваны ў адпаведнасці з указам прэзідэнта №550, які быў прыняты 5 снежня 2013 года і згодна з якім тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі павышаюцца штогод з 1 студзеня на 5 долараў у эквіваленце, а такасама індэксуюцца штоквартальна з улікам росту даходаў насельніцтва. Індэксацыя адбываецца з 1 сакавіка, 1 чэрвеня, 1 верасня і 1 снежня.

ЗАКУЛІССЕ

# Генеральскі кадратрус

*Як вядома, з тыдзень таму Аляксандр Лукашэнка адправіў на пенсію свайго аднагодку — міністра абароны генерал-лейтэнанта Юрыя Жадобіна. Пры гэтым усім зразумела, што 60 гадоў — не ўзрост для адпраўкі генералаў на пенсію. Таму аналітыкі шукаюць у гэтай адстаўцы самыя розныя падтэксты.*

Ваенны аглядальнік **Аляксандр Алесін**, напрыклад, лічыць, што гэта курс на рэформу арміі. *"Жадобін, канечне, верны служака, але зорак з неба не хапаў,* — заявіў спадар Алесін. — *У адрозненне ад ініцыятыўнага Леаніда Мальцава, які фантаніраваў ідэямі і ўвесь час нешта рэфармаваў. Аляксандр Лукашэнка заклапочаны рэфармаваннем войска. На прыкладзе Украіны мы бачым, што прамаруджванне з рэфармаваннем, ягонай мадэрнізацыяй, тэхнічным пераўзбраеннем сучаснымі відамі зброі можа прывесці да таго, што ў патрэбны момант яно можа аказацца небаяздольным. Таму перш за ўсё адстаўка Жадобіна азначае змену палітыкі ў мадэрнізацыі войска. Пры Жадобіне (хоць гэта і не зусім ягоная віна — прычына тут у эканамічнай сітуацыі) мадэрнізацыя ішла недастатковымі тэмпамі. Асабліва ў галіне высокатэхналагічнай зброі, авіяцыі, бронетанкавых сіл, якія неабходна было мадэрнізаваць".*

А вось ваенны эксперт **Андрэй Паротнікаў** лічыць, што прычына адстаўкі Ю.Жадобіна — менавіта тое, што напісана ва ўказе. Узрост.

*"Чалавека адправілі на заслужаны адпачынак,* — гаворыць спадар Паротнікаў. — *Іншая справа, што маглі б і пакінуць па прыкладзе іншых чыноўнікаў. Але не пакінулі — значыць, на пасаду міністра ў Лукашэнкі знайшлася іншая кандыдатура. Ну, а самога Жадобіна можна толькі павіншаваць са звальненнем у запас: нарэшце можна пажыць спакойна. Гаспадарка ў яго была вельмі няпростая і, як казаў адзін кінагерой, у каламутныя часы".*

Звернем, аднак, увагу, што Жадобін — не першы з сілавікоў, які раптам пазбавіўся пасады без уцямнага тлумачэння прычын.

Так, нікому нічога не патлумачыўшы, нядаўна Аляксандр Лукашэнка перавёў на працу ў Савет бяспекі шматгадовага кіраўніка Службы бяспекі прэзідэнта **Андрэя Уцюрына**.

Ціха прайшла і яшчэ адна адстаўка — пазбавіўся пасады шматгадовы кіраўнік Дзяржаўнага мытнага камітэта **Аляксандр Шпілеўскі**. Хаця крэсла пад ім не пахіснулася нават тады, калі так званыя "справы мытнікаў" ішлі ў суды канвеерам, а памеры карупцыі ў ведамстве здзіўлялі нават вопытных следчых.

Не зусім слаўнае, але блізкае да таго ведамства — Камітэт дзяржаўнага кантролю — таксама зусім нядаўна змяніла кіраўніка. Менш за год працуюць кіраўнікі Савета бяспекі і Дзяржаўнага пагранічнага камітэта. Ва ўсім гэтым нельга не западозрыць тэндэнцыю.

Нагадаем, што, як толькі сталі вядомы падрабязнасці падзей ва Украіне, як толькі выплыла інфармацыя пра той узровень здрадніцтва на карысць Расіі, які быў ва ўкраінскім кіраўніцтве, многія выказвалі думку, што Аляксандр Лукашэнка пойдзе на кадравыператрус у сілавым блоку хаця б дзеля таго, каб падстрахавацца.

Тое, што мы назіраем увесь год, гэта сапраўдыператрус ці звычайныя скарзнякі?

Адназначна адказаць на гэтае пытанне можа толькі сам Аляксандр Лукашэнка. Але старшыня КДБ Валерый Вакульчык і міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч наўрад ці могуць быць вельмі ўпэўненымі ў тым, што надоўга затрымаюцца на сваіх пасадах. Дарэчы, Шуневіч родам з Данбаса, з Луганскай вобласці. Можа, таму беларуская міліцыя так настойліва палюе на ўкраінскія сцягі і людзей з жоўта-блакітнымі стужачкамі?.. Так зацята палюе, што беларускага пасла ва Украіне ўжо выклікалі ў МЗС гэтай краіны, каб выказаць свае прэтэнзіі.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *У Літве мінімальны месячны заробак будзе 325 еўра, у Беларусі сёння ён складае 137,3 еўра*

У рэдакцыю "Народнай Волі" звярнулася наша сталая чытачка з Маладзечна Валянціна Крупеня. Яна даведалася, што з сярэдзіны наступнага года ў суседняй Літве мінімальны месячны заробак будзе 325 еўра. "А ў нас якая мінімалка?" — пытаецца спадарыня Крупеня.

У Беларусі літаральна кожны месяц мяняецца памер мінімальнай заработнай платы. Але яна невялікая, зараз складае 137,3 еўра.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ОФИЦИАЛЬНО

# Лукашенко дает 10 тысяч долларов. Кто больше?



В Беларуси с 1 января 2015 года семьи, воспитывающие двух и более детей, будут получать ежемесячное пособие.

Об этом сообщила пресс-служба президента.

Там пояснили, что такая мера господдержки семей, воспитывающих детей, предусмотрена проектом соответствующего указа, который должен вступить в силу с 1 января 2015 года.

В частности, предусматривается, что семьям, воспитывающим несовершеннолетних детей, будет предоставляться ежемесячное пособие в размере 50% наибольшей величины бюджета прожиточного минимума в среднем на душу населения, утвержденного Минтруда и соцзащиты, за два последних квартала.




Право на пособие будут иметь мать или отец (усыновитель, опекун), воспитывающие одновременно детей в возрасте до трех лет и от трех до 18 лет и имеющие право на пособие по уходу за ребенком до трех лет. Этот вид пособия будет выплачиваться семье до достижения младшим ребенком трех лет.

При назначении как этого пособия, так и семейного капитала не будут учитываться дети, находящиеся в детском интернатном учреждении, учреждении образования с круглосуточным режимом пребывания. Кроме того, не будут иметь права на эти виды господдержки родители, лишенные родительских прав, чьи дети находятся на гособеспечении.

### В ТО ЖЕ ВРЕМЯ

*О решении выплачивать пособие сообщается как о фактически принятом. А вот еще две меры поддержки многодетных семей пока в проекте.*

Так, проектом указа предусмотрено снижение до 5% ставки за пользование льготным кредитом на строительство жилья молодым семьям с двумя несовершеннолетними детьми. Однако пойдет государство на такую меру или нет, пока не понятно.

Кроме того, власти серьезно раздумывают над введением так называемого "семейного капитала" — серьезной денежной суммы за рождение третьего и последующих детей. Правда, тут нынешние чиновники могут назначать любую сумму, поскольку выплачивать ее придется, скорее всего, не им. Дело в том, что, согласно проекту, обещанная сумма должна будет выплачиваться по достижении ребенком 18-летнего возраста. Что будет в нашей стране через 18 лет? Кто будет править? Что можно будет купить на 10 тысяч долларов почти через 20 лет? Ответов на эти вопросы нет. И тем не менее...

*"Мы договорились, что меры будут долгосрочными. За каждого третьего и последующего ребенка семье предоставляется 10 тысяч долларов. Они смогут воспользоваться этим капиталом через 18 лет. Это уже будет, мы просчитали, 14 тысяч долларов, а может быть, даже 15 тысяч. Это деньги хорошие. Это долговременная поддержка",* — заявил Александр Лукашенко.

Проектом указа предусмотрено, что право на семейный капитал будут иметь граждане Беларуси при рождении либо усыновлении третьего и последующих детей, родившихся с 1 января 2015 года до 31 декабря 2019 года. Право на обращение за назначением семейного капитала может быть реализовано в течение 6 месяцев со дня рождения или усыновления третьего и последующих детей. Право распоряжения средствами семейного капитала наступит по истечении 18 лет с даты рождения этого ребенка. Средства семейного капитала семья сможет направить на улучшение жилищных условий, получение образования, услуг в сфере социального обслуживания, здравоохранения, формирование накопительной пенсии матери. При этом средства могут быть использованы досрочно на получение платных медицинских услуг.

Средства семейного капитала предполагается размещать на депозитарных счетах граждан в ОАО "АСБ Беларусбанк".

Народная Воля
http://www.nv-online.info
9 СНЕЖНЯ 2014 г.

РЭХА

## Спадар Яўген, не спрабуйце нас, сялян, суцяшаць...

*Гарадскі жыхар Яўген Кананучанка вырашыў, што вёску, якая памірае, не трэба аплакваць (“Народная Воля”, №93). Лічу такое меркаванне памылковым. Выміраюць не проста нейкія пасяленні, а знікае цэлы сацыяльна-нацыянальны пласт. Паступова знікае чалавек-земляроб, чалавек-хлебароб. Памірае натура, псіхалогія чалавека ад зямлі.*

Параўнайце селяніна, які мае сваю хату, свой агарод, свой сад, свой хлеў са статкам жывёлін, і таго, хто жыве ў нейкім аграгарадку на трэцім паверсе шматкватэрнага панэльнага дома. Гэта ж розныя людзі! Першы — гаспадар на зямлі, другі — падзёншчык. Зямля, скажам, у СПК (сельскагаспадарчым кааператыве) не яго, каровы, свінні на фермах — не яго, тэхніка — не яго, дом — не яго. Атрымліваецца, што ў яго нічога няма, акрамя мазолістых рук. Чаму такі чалавек павінен, як кажуць у народзе, надрываць пуп?

Мне здаецца некарэктнай спасылка аўтара на вопыт Захаду. Там, пагадзіцеся, ніхто ніколі не знішчаў гаспадара-ўласніка. Ён можа жыць у невялічкім гарадку, але побач зямля, на якой ён працуе, — яго зямля. І вынікі працы — яго, а не агульныя, якія можна лічыць нічыйнымі.

Ўратаваць вёску змогуць толькі якасныя пераўтварэнні ў псіхалогіі, паводзінах і натуры вясковага жыхара. Псіхалогія чалавека-падзёншчыка, чалавека-робата вёску не ўратуе. Хоць плач, хоць не плач. І, спадар Яўген, не спрабуйце нас, сялян, суцяшаць.

**Уладзімір ГУК, жыхар вёскі Бобрык Пінскага раёна.**

ОЗАРЕНИЕ

## Это может произойти за несколько дней до президентских выборов

Уважаемая редакция!

У меня появилось видение того, что (на радость затурканным белорусам) может произойти за несколько дней до президентских выборов 2015 года. Хотите верьте, хотите не верьте, но в избирательных бюллетенях не будет фамилии А.Г.Лукашенко.

По ряду соображений заблаговременно афишировать свое неучастие в выборах он не станет. Скорее всего, снимет свою кандидатуру не во время регистрации кандидатов, а за несколько дней до выборов и призовет своих приверженцев голосовать за названного им преемника, за которого, кстати, проголосуют очень многие избиратели. Сомневаться в достижении поставленной Лукашенко цели не приходится. Победит его ставленник.

В течение первого-второго кварталов 2015 года Лукашенко закончит укрепление властных структур надежными людьми, готовыми продолжить развитие страны в заданном им направлении. И будет хорошо, если возглавить правительство Лукашенко поручит не слепому приверженцу его курса, а человеку здравомыслящему, умеющему анализировать, мыслить с учетом мировых тенденций.

**Михаил Гаврилович ЖУКОВ, ветеран труда.**

*г.Барановичи.*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# ...Если не брать за образец Северную Корею

Кажется, сейчас, в период “мирового кризиса, который затронул и нас”, не время для выбора долговременных стратегических целей, тут выжить бы. Но это не совсем так, вернее совсем не так. Если сосредоточиться исключительно на выживании, то только этим страна и будет заниматься до самой своей смерти. Примеров в истории хватает. Нужно знать, куда мы пойдем, когда выживем. Кстати, выбор цели сильно помогает выжить, а бесцельность существования значительно снижает стремление жить.

Так что в кризис надо думать о будущем, тогда все получится. Если думать о том, как вернуться в прошлое или всего лишь о стабилизации ситуации, то есть о стабилизации кризиса, то получится крах. Вот и сейчас не только у нас, но и во всем мире, большинство политиков думает только о путях стабилизации ситуации, фактически стабилизации кризиса, меньшинство политиков повело свои народы в “светлое прошлое”. К слову, надо отметить, что таких, к сожалению, становится все больше и эта тенденция не только Ближний Восток затронула. Таких же политиков, кто пошел в будущее, лично я пока не вижу.

Сейчас наша цель — пресловутый “вал”, количественные показатели по выпуску тракторов, холодильников, введению в строй “ледовых дворцов” и прочих мегасооружений и тому подобного. Но есть и другие показатели. Их, к слову, никогда не принимали и не принимают в расчет политики определенного толка типа Сталина, Гитлера, Ким Чен Ына, но они существуют. Один из них — “качество жизни”. Кто-то сразу возразит, что без наращивания того же валового внутреннего продукта никакого качества жизни не будет. Согласен, но все же это разные показатели. Вот, к примеру, расположенные недалеко друг от друга Швейцария и Чехия. Формальный уровень жизни у них отличается очень сильно, а вот качество жизни — не очень. Формальный доход на душу населения между Швейцарией и Германией разнится почти вдвое, но никакого различия в качестве жизни невооруженным глазом не увидишь.

Или взять Прибалтику в составе СССР. Формально зарплаты были одинаковые по всей стране, рынка не было, царствовала “тарифная ставка”. Но качество жизни было гораздо выше именно в Прибалтике, даже если сравнивать с центральной Россией. А по сравнению со среднеазиатским “социализмом” так и вообще небо и земля.

Так что хотя ВВП, естественно, важен, но качество жизни ему не идентично и за него надо бороться отдельно. ВВП ведь можно по-разному “накрутить”. Купили нефти на миллиард, продали нефтепродуктов на миллиард и сто миллионов. Под закупку нефти взяли кредит. На этом и всех сопутствующих операциях — финансовых, производственных, логистических — насчитали ВВП более двух миллиардов. А реально на качество жизни пойдет менее ста миллионов, если из чистой прибыли вычесть проценты по кредитам. Это не значит, что нефтепереработкой не нужно заниматься, но ориентироваться надо на качество жизни, а не на ВВП. Иной бизнес может дать в ВВП не два миллиарда, а лишь четыреста миллионов, но из них двести будут работать на качество жизни. Значит, последний все же в два раза эффективнее того, который “накручивает” ВВП на два миллиарда.

Иными словами, организация жизни, ее качество важнее показателя ВВП на душу населения. Хотя это касается, понятно, только относительно высокого уровня жизни. Так что до нижнего уровня по количеству мы, можно сказать, уже добрались, теперь есть смысл подумать и о качественных показателях, об организации жизни иными словами. Ведь выше этого уровня связь между доходом и качеством жизни уже не прямая.

Вот в некоторых странах даже богачам жить не так уж и комфортно. И забором им надо огораживаться от остальной страны, и без охраны никуда не выйдешь, и так далее. И это не просто “понты”, ведь не секрет, что и грабят их, и похищают, и убивают. Да и в части остальной жизни не так уж комфортно; богато, но не всегда удобно. Поэтому они зачастую предпочитают зарабатывать деньги “тут”, а жить “там”. Ну или хотя бы семьи из некомфортной страны отправить в более комфортную. У простых же людей вообще другой взгляд на жизнь — перед ними стоит проблема, как выжить. Про пенсионеров и инвалидов, даже относительно обеспеченных, можно даже не говорить, у них все намного хуже.

Давайте прямо скажем: на сегодняшний день Беларусь довольно бедная страна, при этом дорогая и некомфортная. Очень богатыми, как, скажем, швейцарцы, мы одномоментно стать не сможем. Вон уже пятый срок наш правитель кормит электорат сказками. Но и после его ухода (если это, даст Бог, случится в обозримом будущем) богатства на наши головы не свалятся. Хотя стать страной пусть и не самой богатой, но дешевой и комфортной мы можем. Надо только этого захотеть. Только ориентироваться нам надо не на опыт Северной Кореи или даже Китая, а на опыт Швейцарии или хотя бы Чехии. Ну или Польши, в конце концов. В общем, где-то в том направлении. Хотя опыт Таиланда, Панамы или Коста-Рики тоже мог бы подойти, но это далеко и трудно для изучения из-за местных особенностей. А вот вышеупомянутые примеры все же надежнее.

К слову, это могло бы стать нашим конкурентным преимуществом в известном союзе, выйти из которого пока вряд ли получится. Догнать Россию и Казахстан по уровню доходов у нас не получилось и вряд ли получится в ближайшее время. Разве что там власти вообще “с ума сойдут”. Хотя стремиться, понятно, надо. А вот по качеству жизни рывок для нас в теории возможен, все предпосылки есть. Если, повторяю, не брать за образец Северную Корею.

**Юрий ПШЕННИК.**

*Минск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Натрудзілі языкі

**Брэсцкія актывісты грамадзянскай ініцыятывы “Сацыяльны офіс” звярнуліся да дэпутатаў гарсавета з прапановай зрабіць справаздачу перад выбаршчыкамі, як таго патрабуе заканадаўства. На зварот адгукнуўся ўсяго адзін дэпутат...**

*У любога дэпутата*
*У акрузе спраў багата.*
*Кожны дзень для іх — гарачы.*
*Дык чаму ж на справаздачы*
*Да людзей не йдуць яны?*
*Ёсць адказ зусім зямны.*
*Так агітавалі нас!*
*Выбараў адказны час*
*Быў для іх такі цяжкі!*
*Натрудзілі языкі...*

## Алергія на людзей

**У Англіі падабралі бяздомнага сабаку ў страшным стане: поўсць касмылямі, на скуры запаленне... Дактары вызначылі: у сабакі алергія на людзей.**

*Што ж было, калі сабака*
*Адчувае гэткі жах?*
*Нацярпеўся небарака*
*Ад жывёл на дзвюх нагах...*
*Валадар як быццам свету*
*(Гэтак кажуць) чалавек.*
*Ці ж адзін сабака гэты*
*Зведаў гвалт, ягоны здзек?*
*Плачуць нетры і расліны,*
*Стогнуць птушкі і звяры.*
*Свет ляціць на дно цясніны*
*Пры такім “валадары”.*
*Чалавек жа год ад года*
*Гэткі лад жыцця вядзе,*
*Што займее ўся прырода*
*Алергію на людзей.*

## Раяць урачы: сам сябе лячы

**У некаторых паліклініках Гродзеншчыны медыцынскі персанал, запісваючы на прыём пацыентаў, папярэджвае, што з сабою трэба прынесці шпрыцы, пальчаткі, прасціны ці пялёнкі.**

*Прыхварэў крыху Мікола.*
*Ногі ломіць — хоць ты плач.*
*Наказаў рабіць уколы*
*Дзецюку ўчастковы ўрач.*
*Трэ лячыцца... Дзякуй Богу,*
*Хоць у тым няма бяды,*
*Бо лякарня — праз дарогу,*
*Тры ці пяць хвілін хады.*
*Сербануўшы чаю шклянку,*
*Ён ступіў цераз парог,*
*Каб яму зрабілі зранку*
*У лякарні ўкол для ног.*
*Там не быў дзяцюк ніколі,*
*Не хадзіў да дактароў,*
*Бо да гэтых пор Мікола*
*Пачуваўся — будзь здароў!*
*У прасторным калідоры*
*Варушылася чарга:*
*Хто на печань-ныркі хворы,*
*У каго баліць нага.*
*Вельмі сумныя карцінкі,*
*Аж нагортваецца страх...*
*І чамусьці ўсе прасцінкі*
*Мнуць-цярэбяць у руках.*
*Зразумець Міколу цяжка,*
*Касавурыць ён пагляд:*
*Дай у рукі шчэ і ражкі —*
*Будзе лазня акурат.*
*Калі выйшаў невясёлы*
*З кабінета нейкі дзед,*
*Дык прыйшла чарга й Міколы —*
*Запрасілі ў кабінет.*
*Нешта пішуць эскулапы —*
*Нават іскры з-пад пяра...*
*— Падыходзьце да канапы! —*
*Загадала медсястра.*
*Агаліўшы ягадзіцы,*
*На канапу гупнуў ніц,*
*Каб у ср...ку маладзіца*
*Увагнала колкі шпрыц.*
*А яна, нібы тыгрыца,*
*Зараўла на ўвесь пакой:*
*— Ці ж казала я лажыцца*
*У адзежыне такой? —*
*Вочы круглыя, як слівы,*
*Да вушэй — разява-рот. —*
*Можа, ты які вашывы*
*Ці не мыўся цэлы год!*
*Вунь які мурзаты звонку,*
*На падэшвах — бруду воз!*
*Дык чаму сваю пялёнку*
*Для падсцілкі не прынёс?*
*— Ды не ведаў я! — Мікола*
*Аж чырвоны ад пакут. —*
*Укалі! Са ср...кай голай*
*Колькі мне ляжаць вось тут?*
*Медсястра зрабіла ласку*
*(Не патрэбны ёй раздрай —*
*Іншых скаргаў па завязку):*
*— Укалю ўжо... Шпрыц давай!*
*— Што?*
*Пачуў ад маладзіцы*
*Тое, што “дабіла” ўшчэнт:*
*— Ахламон! З сабою шпрыцы*
*Носіць кожны пацыент!*
*Як няма ў цябе “іголкі”,*
*Не прынёс ты прасціну,*
*Не ўкалю цябе, а толькі,*
*Калі хочаш, ушчыкну...*

СІТУАЦЫЯ

## Каму так хочацца паказытаць нервы Алегу Волчаку?

***У гэтым годзе ўдзельнікі вайны ў Афганістане павінны абмяняць свае пасведчанні савецкага ўзору СССР на пасведчанні ўдзельнікаў баявых дзеянняў. Замена дакументаў павінна завяршыцца да 1 студзеня 2015 года. Ветэран Афганскай вайны, шматгадовы аўтар “Народнай Волі” Алег Волчак яшчэ ў сакавіку падаў у ваенкамат свае дакументы для замены пасведчання, але дагэтуль новай “корочки” не атрымаў.***

— Двойчы звяртаўся ў ваенкамат з пытаннем, калі змагу атрымаць новае пасведчанне, — расказвае Алег Канстанцінавіч. — І кожны раз атрымліваў адзін і той жа адказ: гарадская камісія правярае маю службу ў Афганістане і павінна вынесці свой вердыкт. Але пры гэтым мне прапанавалі атрымаць медаль ад Аляксандра Лукашэнкі ў сувязі з юбілейнай датай з нагоды выводу войскаў з Афганістана. Гэта значыць, што ў ваенкамаце як бы ведаюць і прызнаюць, што я ваяваў у Афганістане, але, магчыма, хочуць паказытаць нервы. Магчыма, правучыць за маю актыўную пазіцыю. Я ж ужо другі раз адмаўляюся ад дзяржаўнай узнагароды ў знак пратэсту, што беларускія ўлады пазбавілі “афганцаў” ільгот, якія замацаваны Пагадненнем краін СНД 1994 года. Наша краіна падпісала гэтае пагадненне і абавязана яго выконваць, але, спаслаўшыся на цяжкае эканамічнае становішча ў краіне, яшчэ ў 2007 годзе ўлады анулявалі ўсе сацыяльныя льготы для “афганцаў”. І, напрыклад, з 2012 года больш за 800 чалавек былі зняты з ільготнай чаргі на атрыманне жылля, хаця сілавікі гэтыя льготы маюць.

Калі мне не выдадуць пасведчанне, я губляю статус ветэрана баявых дзеянняў у Афганістане. Я ведаю, што камісія разглядае не толькі маю справу, але і іншых маіх калег. Раней такіх пытанняў не ўзнікала, чаму яны паўсталі цяпер?

ЗВАНОК У ВАЕНКАМАТ

## «Працэдура гэта доўгая...»

***Сапраўды, чаму зацягваецца выдача новых пасведчанняў “афганцам”? Няўжо ветэрана Афганістана могуць пазбавіць гэтага статусу? За каментарыем мы звярнуліся ў Фрунзенскі ваенны камісарыят Мінска, куды Алег Волчак падаў свае дакументы для замены пасведчання.***

— Алег Канстанцінавіч Волчак? — удакладніла начальнік аддзялення сацыяльнай абароны і пенсіённага забеспячэння ваенкамата **Вольга ПАСВЯШЧОНАЯ**. — Ён служыў у памежных войсках, а для замены пасведчанняў байцам гэтага роду войскаў патрабуецца пацвярджэнне з архіва памежных войскаў. Адказ мы ўжо атрымалі, дакументы Волчака пайшлі на камісію ў гарадскі ваенкамат. Рашэнне прымаецца калегіяльна. Думаю, што ў снежні Алег Канстанцінавіч атрымае новае пасведчанне. Замінка адбылася толькі з-за запыту. Волчак падаў дакументы своечасова. А зараз што адбываецца?! Тэрміны для замены пасведчанняў сыходзяць, а “афганцы” толькі цяпер панеслі свае дакументы ў ваенкаматы. Яны думалі, што замена пасведчання — справа некалькіх дзён, а працэдура гэта доўгая.

**— Але ж яны змогуць атрымаць новыя пасведчанні ў 2015 годзе?**

— Не ведаю. Пакуль ніякіх распараджэнняў аб падаўжэнні тэрміну замены пасведчанняў не было. Але, напрыклад, толькі наш ваенкамат не атрымаў адказ на запыт з архіва амаль па 300 “афганцах”. Значыць, да 1 студзеня яны наўрад ці паспеюць атрымаць новы дакумент. Думаю, наверсе будуць вырашаць, як быць у гэтай сітуацыі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ!

# Что стоит за средней нормой?

Уважаемая редакция!

После прочтения статьи Н.И.Семашко “Обман”, опубликованной в “Народной Воле” 6 ноября, появилось желание и у меня оспорить заверения наших чиновников насчет того, что чуть ли не они сами оплачивают за белорусов коммунальные услуги. Стало мне интересно, каким образом бухгалтер ЖЭС насчитывает плату за вывоз и обезвреживание отходов. Посмотрел в жировку и увидел, что из месяца в месяц — одна и та же цифра. Вы, уважаемые читатели, уже догадались, в чем тут дело? Зачем считать число баков, которые увезли от дома, когда можно ввести среднюю норму количества отходов и мусора, “производимого” одним жителем в месяц! И никакой пенсионер не сможет доказать абсурдность этой нормы, тем более если она утверждена самим Совмином, в котором трудятся сплошь доктора и кандидаты великих наук! Норма эта — 0,2025 метра кубического на одного человека в месяц. Посмотрите, уважаемые белорусы, какие талантливые специалисты сумели рассчитать эту норму с точностью до 0,5 литра!

И еще одна удивительная вещь. Получается, что семья из трех человек каждый день в течение месяца “производит” по два десятилитровых ведра отходов и мусора! И захотелось мне решить две задачки для третьего класса.

Первая: сколько всего КТО и мусора вывозят от моего шестиподъездного дома в месяц? Каждый подъезд оснащен баком объемом 1,0х0,9х0,9=0,81 м$^3$. Вывоз производится в понедельник, среду и пятницу (так что если в пятницу вывоз не состоялся, то до понедельника у каждого подъезда можно любоваться видом, который я представил на прилагаемом фото. И это практически в центре города Минска, который является чуть ли не центром Европы!). Итого получается: 0,81 (объем бака) х 6 подъездов х 4 (число недель) х 3 (дни вывоза). Получается 58,32 м$^3$. Кроме того, по мере необходимости (где-то раз в месяц) вывозится хлам, от которого жители дома избавляются, вынося его к подъезду. Позволю себе округлить (думаю, с большим запасом!) цифру 58,32 м$^3$ до 75 м$^3$. Это ответ на вопрос, поставленный в первой задаче.

Задача вторая: сколько КТО и мусора вывозится по норме? В доме проживает 1008 человек (данные ЖЭС). Умножаем 0,2025 на 1008 и получается 204,12 м$^3$. Как говорит мэтр спортивного репортажа В.Новицкий, почувствуйте разницу между 75 м$^3$ и 204,12 м$^3$.

Уважаемые минчане! Обманывают нас на каждом шагу. Там, может, общими силами положим этому конец?

**Валерий РУСЕЦКИЙ.**




ПРОТЕСТ

## Это обдираловка!

Я очень была удивлена, когда пришла платить членские взносы садоводческого товарищества в Борисовский филиал №612 “Беларусбанка”. Оказалось, что от физических лиц берут комиссионный сбор в размере 10.000 белорусских рублей. Раньше, два месяца назад, брали всего 3000. Одномоментно увеличили сбор в три раза, независимо от суммы.

Я плачу каждый месяц, а значит, должна буду уплатить в виде комиссионного сбора 120.000 белорусских рублей. Это обдираловка!

Пенсионеров — а они составляют большинство членов садоводческих товариществ — обдирают как липку. Один автомобильный налог за дороги — это, считай, полпенсии. А сколько денег забирает государство в других случаях! И это называется забота о пожилых людях?!

**Мария Ивановна СОРОКА.**

*г.Борисов.*

УРАЖАННІ

# Вярнуцца да сябе

### І свет паверыў бы...

Неяк летнім днём праходжваўся па парку ў сваёй вёсцы Камаі. Параўняўшыся з гульнявой пляцоўкай, дзе бавіліся дзеткі 4—5 гадкоў, пачуў: “Здраствуйця... здраствуйця!” Па вымаўленні было зразумела, што гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі з беларускіх сем’яў і я не ўстрымаўся, зрабіў заўвагу: “Чаму вы дзеткі вітаецеся са мной па-руску? Вы ж беларусы, ваша радзіма Беларусь, таму лепш казаць “Добры дзень”. Пайшоў далей. Праз колькі хвілін, вяртаючыся назад, ля той жа гульнявой пляцоўкі пачуў: “Добры дзень... добры дзень!” Наперабой гучалі галасы дзетак, яны нібы спаборнічалі паміж сабой у вымаўленні прыгожых слоў, стараліся паказаць, што зразумелі мае словы. Міжволі прыйшоў у замілаванне ад дзіцячай шчырасці і непасрэднасці. Падумалася: вучылі б свайму, роднаму ў сям’і, у дзіцячым садку - падрасталі б беларускамоўнымі новыя пакаленні! Пайшлі б яны з ахвотай у беларускія школы, гімназіі, каледжы, ВНУ — глядзіш, з цягам часу загучала б на абсягах Беларусі — ад Добруша да Камянца і ад Расон да Хойнікаў — роднае слова. І паверыў бы свет, што мы — БЕЛАРУСЫ.

### Пачынаць з сябе

У чэрвені мінулага года я знаходзіўся на лячэнні ў Віцебскім абласным шпіталі інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны “Юрцава”. Непадалёку знаходзілася прадуктовая крама (там, зразумела, надпісы на шыльдзе, на цэнніках зроблены на рускай мове, прадаўшчыцы, як і пакупнікі, гаварылі толькі па-руску), у якой я часам купляў тое-сёе з прысмакаў. Заўсёды гаварыў з усімі па-беларуску, як і на прыёмах у дактароў, у штодзённых гутарках з людзьмі. Падаючы мне той ці іншы тавар, прадаўшчыцы гаварылі “калі ласка”, а як разлічваўся за пакупку — “дзякуй, дзякую, дзякуем”, па-добраму ўсміхаліся. Другім жа гаварылі — “пожалуйста”, “спасибо”.

Логіка падказвае, што трэба пачынаць з сябе. Глядзіш, у таго, з кім будзеш размаўляць на роднай мове, нешта зварухнецца ў душы, спрацуе генная памяць, і чалавек возьме ды і загаворыць на мове сваіх продкаў-ліцвінаў. І ўзрадуецца, што (вось бач ты!) вярнуўся да сябе — беларуса. Як кажуць, цяжкі толькі пачатак.

### Аднойчы

Карэспандэнту давала інтэрв’ю жанчына, ды так слаўна гаварыла па-беларуску. І была гэтая жанчына не настаўніца роднай мовы і літаратуры, не беларуская пісьменніца, а загадчыца аддзела сацыяльнага забеспячэння Заводскага раёна Мінска (на жаль, не запомніў яе прозвішча і імя). Было такое адчуванне, нібы ў пустыні сярод суцэльных пяскоў натрапіў на жывую, зялёную раслінку.

### Павеяла беларускім духам

У вёсцы Камаі, дзе я жыву, пяць магазінаў. Як ні сумна, ні ў адным з іх не ўбачыш беларускага слова, будзь гэта шыльда, нейкая аб’ява, этыкетка і гэтак далей. І прадаўцы гавораць па-руску (праўда, рускія словы ў беларускім фанетычным афармленні: “благадару, прыятна, праник”...). І вось на пачатку лістапада адчыніўся новы магазін, гаспадыня якога — Марыя Казіміраўна Давыдоўская, былая настаўніца Камайскай сярэдняй школы, якая выкладала матэматыку. Перад адкрыццём магазіна з’явілася аб’ява: “Шаноўныя землякі! 6 лістапада 2014 года (чацвер) адбудзецца адкрыццё крамы “Грошык”. Шчыра запрашаем! М.К.Давыдоўская”. Ля ўваходных дзвярэй шыльдачка з раскладам рэжыму работы — на беларускай мове. І ўсе подпісы, надпісы ў магазіне — таксама. Сын Марыі Казіміраўны Павел Давыдоўскі выдатна валодае роднай мовай і з пакупнікамі гаворыць толькі так. Такога ў Камаях, хоць гэта і беларуская вёска, яшчэ не было. Нарэшце ў нас з’явіўся магазін, у якім павеяла беларускім духам.

### Як трэба

Мяне прыемна ўразіў сваім знешнім выглядам будынак аўтавакзала ў гарадскім пасёлку Купа (Мядзельскі раён). Зайшоў у памяшканне і акінуў вокам сцэны. Паўсюль — вялізныя стэнды з тэкстамі, да прыкладу — “Правы і абавязкі пасажыраў”. Зверху тэкст напісаны на беларускай мове, ніжэй — на рускай. Пайшоў па доўгім калідоры, на ўсіх дзвярах службовых кабінетаў шыльдачкі, напісаныя па-беларуску. Выйшаў на двор, там бачу шыльду — “Міні-крама”. На табло, што вісяць над пляцоўкамі, ля якіх спыняюцца аўтобусы, свецяцца словы, набраныя па-беларуску. Бачна, што мясцовая ўлада з павагай ставіцца да дзвюх дзяржаўных моў, але першае месца, натуральна, адводзіцца беларускай як мове тытульнай нацыі, на што і арыентуе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

Але ці ўсюды так?

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ.**

*Пастаўскі раён.*

Народная Воля http://www.nv-online.info
9 СНЕЖНЯ 2014 г.

## Ніл ГІЛЕВІЧ

# У віры быцця

*(Запісы розных гадоў)*



### Трагедыя

Трагедыя: улада і нацыянальная інтэлігенцыя між сабой варагуюць. Не супрацоўнічаюць, не ідуць у адной упрэжцы, а... варагуюць. Для лёсу народа, для будучыні нацыі — гэта трагедыя. Няўжо тыя, хто ва ўладзе, не разумеюць гэтага?

*1971*

### І ўсе — па загадзе сэрца

Што ёсць сапраўды ўсенародная любоў і сапраўды ўсенародная слава, мы, беларусы, не ведаем. Гэта ведаюць французы. Чытаю: "За труною Гюго ішло два мільёны чалавек".

Два мільёны! Пры гэтым трэба помніць: ніводнага чалавека па загадзе зверху. Кожны — па загадзе свайго сэрца. У 1956-м я быў на пахаванні Якуба Коласа. Народу было шмат — некалькі тысяч. Але колькі з іх па загадзе свайго сэрца — як за труной Гюго? А колькі "арганізаваных", дзеля...?

*1970-я*

### Ад чаго радасць?

Здаецца, у Яфрэмава вычытаў, што радасць узнікае не ад ацэнкі (цябе справядліва ацанілі), а ад разумення (цябе правільна зразумелі). О, канешне! Ад таго, што цябе правільна зразумелі! Гэта — галоўнае.

*1978*

### Тры сказы з Горкага

"Роза Люксембург совершенно верно сказала, что история русской литературы есть история борьбы русского правительства с литературой и писателями. Эта тяжелая история началась в XVIII веке с Василия Тредиаковского, которого били палками, эта история принудила величайшего русского поэта Пушкина отчаянно крикнуть: "Черт догадал меня родиться в России с душою и с талантом!" Так не кричали ни Гете, ни Байрон, ни Вольтер..."

Горкі паспачуваў найвялікшаму рускаму паэту Пушкіну, які ў роспачы выкрыкнуў праклянцце чорту. А якія праклянцці і каму цягам доўгіх гадоў роспачна выкрыквалі найвялікшыя беларускія паэты — Купала, Колас, Багдановіч? А ўжо ж на іх пачуццё роспачы находзіла такое, што...

*1979*

### Наконт слоў устарэлых...

Наконт слоў устарэлых, якія выйшлі з ужытку, С.П.Залыгін піша: "...без слова прошлого, только современным языком о прошлом не скажешь. Взялся писать о прошлом — изучай язык "своего времени". І далей: "Слово истинно и психологично, когда оно прожило рядом с человеком века, только тогда оно и раскрывается до конца писателю и писатель чувствует в нем своих предков" ("Литературная газета". 14.10.1981).

Поўнасцю пагаджаюся з гэтым выдатным майстрам сучаснай рускай прозы.

*1981*

### Яшчэ адно набалелае слова... І што?

Народная артыстка СССР Н.Мяшко выступіла ў "Правде" (16.11.1987) з артыкулам "Народнай песні — жыць". Думаю, што такі аптымістычны загаловак яе слову далі журналісты, бо ў артыкуле амаль у кожным абзацы — гаркота і боль, боль і занепакоенасць, блізкая да роспачы. Некалькі цытат: "Усё мацней дае пра сябе знаць камерцыйная эксплуатацыя мастацтва. З'ява гэта — сацыяльна небяспечная, паколькі вядзе да духоўнага разбэшчвання народа".

"Савецкая масавая песня ў 1930—1950-х гадах вызначалася народнасцю, самабытнасцю, яркай меладычнасцю і рабіла надзвычай вялікую справу ў выхаванні патрыятызму і згуртаванні людзей. Але пачынаючы з 1960-х гадоў, нягледзячы на асобныя ўдачы, масавая песня становіцца ўсё больш безаблічнай і банальнай".

"Спараджае вялікую трывогу тое, што рускае народнае мастацтва як ніякае іншае паддаецца апашленню і разбурэнню. Плодзяцца рознага роду псеўданародныя штампы..."

"Некаторыя ансамблі адкрыта эксплуатуюць экзотыку фальклору, спалучаючы яго з чужароднымі эстраднымі прыёмамі..."

"Яны не знаюць народнай культуры, выхаваныя на штампах... Фальклор для іх — "архаіка"..."

"Ці не ад гэтага бяднее наша зямля, што бяднее духоўнае поле?"

Вось такую забілі трывогу лепшыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі ў Расіі. Дык калі гэта ў Расіі — то што казаць пра Беларусь? У нас усё тое самае, толькі памножанае на ўласцівае правінцыі малпаванне. О, наша бяздумнае беларускае малпаванне чужое брыды і пошласці! Малпуем, пераймаем — каб канчаткова звесці на нішто сваё, беларускае, што вырастала на грунце народнай культуры.

*1987*

### Які сацыялізм?..

У адным з лістоў Ясеніна, які датуецца жніўнем 1920 года, чытаю: "Идет совершенно не тот социализм, о котором я думал..." Зусім не той? А іменна — што ў ім не "тое"? Цікава было б пачуць самога паэта, пра які сацыялізм ён думаў, які сацыялізм ім чакаўся. Няцяжка ўявіць, што тварылася ў Расіі ў жніўні 1920 года. Апошнія сполахі грамадзянскай вайны. Кроў і смерць. Вайна з Польшчай. Сялянскія паўстанні. Карныя аперацыі ЧК. Голад і голад. Які сацыялізм? Пра што гаворка?..

*1980-я*

### Мова перш за ўсё, мова!..

Гады два назад мяне папракнулі (у друку), што я недаацэньваю значэнне Герба і Сцяга. Гэта не зусім так. Проста я быў упэўнены, што сёння для нас важней за ўсё — Мова, на першым плане павінна быць Мова! Будзе Мова — будзе нацыянальная свядомасць і будзе Беларусь. Не будзе Мовы — не будзе Беларусі. Вось чаму пісаў: "Ну будзе Герб, будзе Сцяг, а Мовы не будзе — і што? У 1920-я гады і без Герба і Сцяга ваўсю ішла беларусізацыя". Значыць, галоўнае — Мова. На гэтым этапе — Мова! Нацыянальна свядомы народ падыме і Сцяг і Герб.

*1991, верасень*

**НАПЯРЭДАДНІ**

### Збірайцеся на баль

Паводле традыцыі, закладзенай у 2010 годзе, у ноч з 13 на 14 студзеня галоўны тэатр краіны — Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі — запрашае сустрэць Стары Новы год у сваіх сценах. Калі сусветнай сталіцай баляў з'яўляецца аўстрыйская Вена, то ў Беларусі цэнтрам прыцягнення публікі, якая любіць прыгожыя і высакародныя забавы, стаў Вялікі тэатр оперы і балета. Баль будзе доўжыцца цэлую ноч: сустрэча старога Новага года пачнецца 13 студзеня ў 20.30 і завершыцца 14 студзеня ў 03.00.

Навагодні баль адкрые парад зорак Вялікага тэатра Беларусі. Танцавальная праграма традыцыйна стартуе Рускім балем і ўрачыстым паланэзам. За гадзіну да поўначы пачнецца канцэрт-сюрпрыз "Навагодні экспрэс", сюжэтнай асновай якога стане рамантычная казка пра каханне. Апоўначы разам з салістамі Вялікага тэатра госці сустрэнуць Стары Новы год пад звон бакалаў шампанскага. Танцавальную праграму прадоўжыць вытанчаны Венскі баль, напоўнены рамантычнай музыкай Штрауса і Легара. А ў "Танга-салоне" госці змогуць асвоіць асноўныя рухі самага гарачага танца — танга.

На прапусціце!

**МАЙЦЕ НА ЎВАЗЕ**

### Дарагія елачкі

Дзяржінспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету папярэджвае пра санкцыі за незаконную высечку ялін у навагодні сезон.

Юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі могуць нарыхтоўваць дрэвы хвойных парод толькі на падставе ляснога білета ў межах выдзеленых ім участкаў ляснога фонду.

Парушальнікаў, калі гэта звычайныя грамадзяне, будуць караць штрафамі ад 5 да 50 базавых велічынь (ад 750 тысяч да 7,5 мільёна рублёў). Індывідуальныя прадпрымальнікі ў выпадку незаконнага знішчэння дрэў заплацяць штраф ад 20 да 200 базавых велічынь (ад 3 мільёнаў да 30 мільёнаў рублёў), а для юрыдычнай асобы штрафы яшчэ вышэй — ад 50 да 300 базавых велічынь (ад 7,5 да 45 мільёнаў рублёў).

**З-ПАД ПЯРА**

### Арлоў, Вольскі і Адамовіч сталі героямі рамана

У калекцыі беларускіх раманаў, напісаных у жанры непрыдуманай літаратуры, з'явілася яшчэ адна кніга — "Мясцовы час" Алеся Аркуша. У творы апісаны культурніцкія падзеі, якія адбываліся на Полаччыне напрыканцы 1980-х — на пачатку 1990-х гадоў. У гэты перыяд на Полацкай зямлі адбыўся шэраг знакавых для Беларусі падзей — першыя гучныя экалагічныя мітынгі, моцны рэгіянальны літаратурны рух, з'яўленне беларускамоўных гуртоў і арганізацыя славутага Наваполацкага рок-клуба, многае іншае. Дарэчы, "Мясцовы час" — гэта яшчэ і назва рок-гурта, які ў той час існаваў у Полацку.

Адметная падзея таго часу — заснаванне альтэрнатыўнай савецкаму Саюзу пісьменнікаў літаратурнай арганізацыі Таварыства вольных Літаратараў. Сярод галоўных герояў рамана — Сяржук Сокалаў-Воюш, Уладзімір Арлоў, Алесь Кузьмін, Юрый Гумянюк, Славамір Адамовіч, Сяржук Цімохаў, Лявон Вольскі...

**НОВЫЕ ИМЕНА**

# Павел Петров — белорусский Паваротти

Самый молодой солист Большого театра Беларуси **Павел ПЕТРОВ** всего за два года завоевал награды пяти международных вокальных состязаний. Ему всего 23, а тенор-вундеркинд только в этом театральном сезоне стал лауреатом двух престижных конкурсов: имени Муслима Магомаева, проходившем в октябре в Москве, и конкурса исполнителей итальянской оперы Competizione dell' opera, который только что закончился в Ташкенте. Театральные профессионалы и педагоги Академии музыки прочат "белорусскому Паваротти" большое будущее, хотя и отмечают, что Петрову неплохо бы серьезнее относиться к профессии. И, кажется, оперный вундеркинд внял советам старших коллег и основательно взялся за построение своей карьеры.

К слову, на І Международный конкурс вокалистов, приуроченный к традиционному Рождественскому оперному форуму в Большом театре, заявки на который подали почти 250 молодых артистов из 21 страны мира, в числе будущих конкурсантов значится имя и фамилия Павла Петрова.

**— Павел, в Большом театре Беларуси вы начинали в 2012 году со стажерской группы. Но пробыли в ней всего лишь месяц и были быстро зачислены в штат. Крейсерская скорость. Чем так впечатлили руководство?**

— Может быть, просто повезло? Как раз в это время в театре готовился концерт к 80-летию Академии музыки, и я пел в квартете из "Риголетто". Сейчас, оглядываясь назад, думаю, что круто замахнулся — в 20 лет исполнять этот материал. Но, видимо, моя самонадеянность произвела эффект.

**— Тем более что тенора театру нужны всегда…**

— Да, это точно! Спасибо Богу, маме, бульбочке, на которой взращен! Повезло мне — тенор!

**— О вас еще, помню, в Театре музкомедии говорили: "С большими перспективами певец…"**

— Я там побегал несколько лет в хоре, научился держаться на сцене, не боясь и не зажимаясь. Хорошее время было, веселое. Теперь надо становиться серьезнее, хотя по жизни я как раз весельчак да и лентяй еще тот. Но уже почувствовал ответственность за свой голос и осознал необходимость работать так, чтобы максимально его развить. У певца должен быть комплекс профессиональных умений. Поэтому приходится основательно заниматься собой. Это в России еще где-то на конкурсах могут слушать только вокал, но в Европе уже давно такого нет. Везде тебя оценивают по совокупности факторов: природа, техника, актерское мастерство, произношение.

**— И как у вас с иностранными языками?**

— Мы работали с педагогом в консерватории над итальянским, но, конечно, этого недостаточно. Ни один преподаватель не даст певцу необходимого качества произношения, хороший результат возможен, если с тобой разучивает партию носитель языка, коуч. В театре у нас коучей нет, поэтому пока полагаюсь только на себя. После конкурса Магомаева меня приглашали в одну итальянскую вокальную школу, но за свой счет. Я бы съездил, конечно, именно произношение поставить, но финансово пока не могу себе это позволить. Потому что на самом деле, если у тебя действительно красивый голос, тебя будут слушать в Европе с удовольствием, и никому твой акцент не помешает.

**— А репертуар сами подбираете?**

— Да, все решения принимаю сам, чтобы потом не перекладывать ответственность за свои ошибки на кого-то другого. Но пока вроде бы фатальных просчетов не совершал, партии у меня сейчас лирические, не самые тяжелые для голосового аппарата. Пою в театре Ленского в "Евгении Онегине" и Альфреда в "Травиате", готовлю Беппо в опере "Паяцы", премьерой которой мы откроем 12 и 13 декабря Рождественский оперный форум. А в следующем году буду занят в партии Лыкова в "Царской невесте".

**— Как вы находите музыкальные соревнования и решаете, куда стоит поехать?**



**Павел Петров и народная артистка СССР Тамара Синявская на международном конкурсе в Ташкенте.**

— Я человек общительный, после каждого конкурса у меня появляются новые друзья. У нас отлично работает сарафанное радио — обмениваемся информацией между собой. Приглашения присылаются и на наш театр, так я узнал о конкурсе Биешу в Молдове, который в результате выиграл. Его уровень был достаточно высоким, приехало много хороших певцов, но вот оркестр в Кишиневе совсем никуда не годится. Страна живет очень бедно, это, наверное, сказывается на уровне игры музыкантов. Мало-мальски конкурентоспособный артист уезжает из Молдовы в Россию, Европу.

О Международном конкурсе имени Муслима Магомаева я узнал благодаря коллегам, которые принимали в нем участие. Каждый год в Москву ездил кто-то от нашего театра. Сначала Илья Сильчуков выиграл этот конкурс, потом Анатолий Сивко получил там вторую премию, а в этом году съездил я и тоже занял второе место, а еще получил стипендию Фонда Владимира Спивакова. Это не только деньги, но и возможность впоследствии с ним спеть.

Есть очень много конкурсов, о которых знает каждый молодой певец. Например, "Опералия" Пласидо Доминго, конкурс имени Королевы Елизаветы, конкурс BBC "Певец мира" в Кардиффе... Это топ-соревнования в сфере оперного вокала. На них мне ехать пока рано, нужно еще учиться.

**— Участие в международных вокальных конкурсах — это, прямо скажем, и возможность улучшить свое финансовое положение…**

— Конечно, этот аспект очень важен. Я сам из Борисова, в Минске рассчитывать могу только на себя. Живу в общежитии Академии музыки, которое находится в студенческой деревне в Малиновке. Оно новое и очень хорошее, ничего не могу сказать, но все-таки это общежитие, а надо уже думать о собственном жилье. Может быть, театр поможет... Но и самому надо двигаться в этом направлении.

Вообще, материальные выгоды в этой профессии меня интересуют далеко не в первую очередь. Я получаю настоящий кайф от пения. Поэтому самое главное для меня — искать и находить точки приложения собственных сил, показываться профессионалам в оперном искусстве.

**— Вы подали заявку на І Международный Рождественский конкурс вокалистов, который организовывает Большой театр Беларуси. Рассчитываете, что в домашнем соревновании будут и стены помогать?**

— Если у нас проходит конкурс, где в жюри сидит столько руководителей европейских театров, менеджеров музыкальных фестивалей и агентств, то грех не воспользоваться возможностью прослушаться. Я считаю, что это очень нужное начинание. Представляю, сколько финансов в него вложено, но с точки зрения имиджа это просто бесценная инициатива! Я всех своих друзей постоянно приглашаю в Беларусь, но пока так никто и не доехал. А сейчас появилась такая чудесная возможность: и страну посмотрят, и театр, и спектакли Рождественского оперного форума. Нет лучшей рекламы Беларуси и нашего искусства, чем вокальный конкурс, куда приезжает молодежь из разных стран.



**Павел Петров в партии Ленского в опере "Евгений Онегин".**

Из моих знакомых многие собираются к нам на конкурс. Мой друг Липарит Аветисян, тенор из Армении, сейчас гастролирует по Европе, но надеется, что удастся вырваться в Беларусь. Из Молдовы приятель будет, и монгольские ребята, с которыми мы встречались на конкурсе Магомаева, тоже. Я точно знаю, что приедет очень много сильных певцов, так что в эти дни в Минске будет жарко.

**Ольга ОБОЛЕНСКАЯ.**

**ФОТАРЭПАРТАЖ**

# «Я шчаслівы»

*У Мінску адбылося прэсвітарскае пасвячэнне дыякана Віталія Стрыгі*



Святарскае пасвячэнне, якое надзяляе чалавека дарамі і правам здзяйсняць таінствы і абрады, — менавіта такая падзея адбылася ў Мінскім архікатэдральным касцёле імя Найсвяцейшай Панны Марыі. Пасвячэнне дыякану Віталю Стрыгу ўдзяліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

Напярэдадні прэсвітарскага пасвячэння, пасля рэпетыцыі ўрачыстай Імшы, яшчэ дыякан, а сёння ўжо новапрэсвітар Віталій Стрыга распавёў пра таямніцу святарства ў сваім жыцці:

— Святарства для мяне — гэта дар жыцця. Хоць я разумею, што я чалавек слабы і грэшны, але ў сваім жыцці я сустрэў святароў, якія мне паказалі прыклад служэння, таму я таксама ў пэўны момант задумаўся: можа, і мне пайсці за Езусам і абвяшчаць Яго Евангелле?

У маім жыцці быў такі момант — я служыў у супольнасці "Легіён Марыі" і наведваў хворых людзей. У размовах з імі я вельмі часта адчуваў, што я ім патрэбны, патрэбны асабліва хворым і тым, хто жыве ў нястачы.

Гэтыя людзі настолькі адкрываліся перада мною, расказвалі пра свае праблемы, асабліва пра тыя моманты жыцця, калі ў савецкія часы не было святароў і яны адыходзілі ад Бога, пра тое, што зараз жадаюць зноў да Яго прыйсці.

У такія моманты я адчуваў, што гэтым людзям вельмі патрэбна споведзь, і прапаноўваў ім звярнуцца да святара, але часта яны не адважваліся і казалі: "Калі б ты быў святаром, то табе я паспавядаўся б".

Сённяшні новапрэсвітар Віталій Стрыга паходзіць з парафіі Святога Казіміра ў Стоўбцах. Вучобу ў семінарыі распачаў у 31 год, і перад гэтым выбарам доўга і шмат маліўся.

— Цяжкасці былі, — адзначае новапрэсвітар, — і іх было шмат, але ўсё наша жыццё складаецца з праблем, якія трэба вырашаць. Галоўнае — памятаць, што Бог побач. Я шчаслівы, бо разумею, усведамляю, што Бог жыве ў маім сэрцы. Калі чалавек у гэта верыць і гэта разумее, то ён па-сапраўднаму шчаслівы.

**Фота Мікалая НОВІКАВА.**





Народная Воля
http://www.nv-online.info
9 СНЕЖНЯ 2014 г.

МАЗАІКА

## Ліміт на легіянераў

*У наступным сезоне ў вышэйшай лізе чэмпіянату Беларусі па футболе будзе больш жорсткі ліміт на легіянераў.*

4 снежня на пасяджэнні выканкама Беларускай федэрацыі футбола абмяркоўваўся праект рэгламенту нацыянальнага чэмпіянату на 2015 год. Адно з новаўвядзенняў тычыцца скарачэння колькасці легіянераў, якія змогуць знаходзіцца аднaчасова на поле ў складзе адной каманды, піша БелаПАН.

Зараз ліміт складае пяць ігракоў, прапануецца знізіць яго да чатырох. Аднак замежныя футбалісты, якія згулялі ў 50% матчаў за сваю нацыянальную зборную на працягу каляндарнага года, што папярэднічаў моманту падпісання кантракта, легіянерамі лічыцца не будуць.

Мяркуецца, што дакумент будзе зацверджаны на пачатку наступнага года.

## Віктар Ганчарэнка можа ўзначаліць «Ростов»

*Былы футбольны трэнер барысаўскага БАТЭ і краснадарскай “Кубани” Віктар Ганчарэнка гэтай зімой можа ўзначаліць расійскі футбольны клуб “Ростов”.*

Пра гэта паведамляе “Советский спорт”.

Прадстаўнікі “Ростова” звязваліся з Віктарам Ганчарэнкам праз некаторы час пасля ягонага звальнення з краснадарскай “Кубани”, аднак у той момант да канкрэтнага адказу з боку трэнера справа не дайшла.

Трэнер, паводле некаторых звестак, не даў канкрэтнага адказу: у Ганчарэнкі ёсць добры варыянт у адной з краін былога СССР. Тым не менш не выключана, што менавіта беларускі трэнер узначаліць растаўчан ужо ў снежні.

## Магілёўскі «Днепр» страціў месца ў вышэйшай лізе

*Днямі аўтсайдар сёлетняга першынства краіны па футболе правёў на сваім полі матч у адказ з “Віцебскам”.*



Гульня скончылася нічыёй — 1:1. Аднак для магіляўчан гэты вынік быў нездавальняючым, бо першы матч у адказ яны прайгралі на полі саперніка, саступіўшы яму — 0:2, паведамляе euroradio.fm.

Такім чынам, “Днепр” у наступным сезоне пакідае вышэйшую лігу чэмпіянату Беларусі. Замест яго там будзе выступаць “Віцебск”. Таксама ў элітны дывізіён пераходзяць “Граніт” і “Славія”.

“Віцебск” гуляў у вышэйшай лізе ў 1992—2002, 2004, 2006—2011 гадах. “Славія” выступала ў “эліце” ў 1995—2005 гадах, а таксама ў 2012—2013 гадах. “Граніт” быў у вышэйшай лізе толькі ў 2008—2009 гадах.

У наступным сезоне ў вышэйшай лізе будуць выступаць 14, а не 12 клубаў, як было раней, таму наўпроставага вылету ў лігу ніжэйшага рангу не было. Пры гэтым дзве каманды, якія занялі першае і другое месцы ў першай лізе, прайшлі ў “эліту” аўтаматам, а за права выступаць у найлепшым дывізіёне змагалася ў матчах у адказ каманда, якая заняла трэцяе месца.

ПРАГНОЗЫ

# Ці выцягне Аляксандр Хацкевіч беларускую зборную з багны?

*Напрыканцы мінулага тыдня новым галоўным трэнерам зборнай Беларусі па футболе быў прызначаны 41-гадовы Аляксандр Хацкевіч. Ці здолее малады спецыяліст падняць каманду на новы ўзровень? Ці на самай справе беларускі футбол у заняпадзе? Што прымусіць балельшчыўка ісці на стадыёны? Аб гэтым карэспандэнт “Народнай Волі” гутарыць з суддзёй міжнароднай катэгорыі **Вадзімам ЖУКОМ.***

— Прызначэнне Хацкевіча — добрае рашэнне, — кажа суразмоўца. — Па-першае, гэта быў вельмі добры футбаліст, па-другое, ён займеў за час работы ва Украіне неблагі трэнерскі вопыт. І не дзе-небудзь, а ў кіеўскім “Дынама”! Увогуле я заўсёды прытрымліваўся пазіцыі, што зборную павінен узначальваць свой трэнер. Чаму? Таму што ён лепш ведае беларускі футбол. А разабрацца ва ўсёй нашай футбольнай гаспадарцы не так і проста. Праўда, складана сказаць, што ў Аляксандра атрымаецца, бо дэфіцыт ігракоў для зборнай адчувальны. Трэба будзе знайсці нейкую разынку, з’яднаць калектыў, зрабіць Каманду з вялікай літары. Гэта гучыць некалькі пафасна, але ж так. Не будзе калектыву — не будзе і гульні. Таму не трэба моцна крытыкаваць Хацкевіча ў першы час яго работы. Размова ідзе не аб выніку сёння і ў гэты дзень, а на перспектыву.

**— Аматары футбола ўжо практычна не цікавяцца гульнямі зборнай. Беларускі футбол у заняпадзе?**

— Калі няма выніку, гэта і ёсць заняпад. А выніку на самай справе мала. І я абсалютна згодны з мінулым настаўнікам зборнай Георгіем Кандрацьевым, што ў трэнера вельмі малы выбар футбалістаў. Яшчэ не так даўно за зборную гулялі па нашых мерках такія прыстойныя футбалісты, як Аляксандр Кульчый, Сяргей Гурэнка, Максім Рамашчанка... Зараз зорных імён практычна няма! Адкуль жа брацца наведвальнасці на стадыёне? Няма гульні — няма гледачоў. Ніхто не хоча плаціць грошы за вецер. Таму насамрэч трэба прызнаць, што беларускі футбол у заняпадзе і яго трэба падымаць. Пры гэтым падымаць нават не на ўзроўні зборнай, а пачынаючы з дзіцяча-юнацкага ўзросту. Трэба пабудаваць сістэму, і толькі праз нейкі час мы зможам казаць аб нейкіх выніках. Цяжка разлічваць на высокі вынік, калі няма рэальнай глебы пад нагамі.

**— Ці ўдасца Хацкевічу выцягнуць зборную з багны?**

— Будзем спадзявацца, бо Аляксандр дастаткова патрабавальны чалавек. Я шмат кантактую з украінскімі футбольнымі спецыялістамі, усе задаволены работай нашага земляка. Таму спадзяюся, што Хацкевіч прыўнясе нейкую свежасць у работу і гульню. Магчыма, знойдзе і новых кандыдатаў у нацыянальную каманду. Яму лепш вядомы магчымасці нашых футбалістаў. Надзея на лепшае ёсць, патрэбны час.

**— Адным з прэтэндэнтаў на пост галоўнага трэнера беларускай зборнай быў нават Марадона. Як вам кандыдатура ў мінулым славутага аргенцінскага футбаліста?**

— Марадона быў вялікім іграком, але як трэнер нідзе сябе не паказаў. Калі б ён узначаліў нашу зборную, тут проста зрабілі б нейкі піяр. І балельшчыкі пайшлі б на стадыён. Але не таму, што каманда пачала б паказваць прыгожы футбол, а таму, што яе трэніруе Марадона. Думаю, больш ад гэтага прызначэння нічога б нам не перапала.

**— Замежныя трэнеры і ганарары патрабуюць немалыя...**

— Безумоўна! Замежнікі за тыя грошы, што атрымліваюць беларускія спецыялісты, працаваць не будуць. Усё-такі элемент патрыятызму тут таксама павінен прысутнічаць. Таму выбар адбыўся абсалютна лагічны.

**— А ці пойдуць аматары футбола балець за каманду Аляксандра Хацкевіча?**

— Складана будзе адразу ж выклікаць цікавасць да зборнай, бо ўсе памятаюць апошнія няўдачы каманды. Але гульня пакажа. Калі футбалісты не будуць сядзець ля сваіх варот у поўным складзе, а пачнуць атакаваць і забіваць, то балельшчык усё заўважыць, зразумее і падтрымае. Гледачам проста неабходна прапанаваць якасны прадукт. У чэмпіянаце Беларусі, дарэчы, практычна тая ж сітуацыя. Футбол не прагрэсіруе, адкуль жа ўзяцца балельшчыкам? Ім проста нецікава прысутнічаць на матчах. Гэта галоўнае. А ўжо другасна — тое, як працуе менеджмент каманд, які стварыў бы аматарам футбола камфорт на трыбунах.

**— Але ж на хакейнае “Дынама” балельшчыкі ходзяць, нават нягледзячы на паражэнні каманды...**

— Хакей — зусім іншая справа. Не забывайце, што за “Дынама” выступаюць легіянеры з імёнамі, а ў КХЛ гуляюць не толькі лепшыя каманды былога Саюза, але і з далёкага замежжа — Фінляндыі, Славакіі, Чэхіі. Гэта ж дадатковы імпульс для гледача. Да таго ж балельшчыкі там сядзяць у цёплым прыгожым памяшканні, дзе можна не толькі паглядзець хакей, але і папіць піва, перакусіць. Усё разам і дае той эфект, што ёсць. Тым часам у сталіцы няма зараз ніводнага паўнацэннага футбольнага стадыёна! Калі такое яшчэ было?! Здаецца, толькі на 2019 год запланавалі адкрыццё ў сталіцы нацыянальнага стадыёна. Ды ён павінен быў з’явіцца яшчэ да таго, як прынялі рашэнне аб рэканструкцыі “Дынама”! Такая сітуацыя не дадае футбольных балельшчыкаў. Больш за тое — змяншае і без таго малую армію аматараў футбола...

**Алесь СІВЫ.**



БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# У вас сухой кашель? Избавляйтесь...

***Сухой кашель — симптом целого ряда заболеваний органов дыхания, поэтому остается одной из наиболее частых жалоб при обращении к врачу.***

В зависимости от длительности течения, кашель может быть острым (до трех недель), затяжным (от трех недель до трех месяцев) и хроническим (свыше трех месяцев).

Сухой кашель, как правило, не приносит облегчения из-за снижения бронхиальной секреции (выделения мокроты) и, как следствие, невозможности ликвидации раздражителя. По тембру сухой кашель делится на звонкий грудной (“лающий”) и тихий (покашливание). “Лающий” кашель свидетельствует о вовлечении в патологический процесс голосовых связок и гортани в целом.

## Причины сухого кашля

В зависимости от причины возникновения, кашель делится на физиологический и патологический. Физиологический кашель является защитной реакцией организма в ответ на раздражение рецепторов инородным телом или скопившейся мокротой. Патологический кашель является симптомом ряда заболеваний респираторного тракта. К основным заболеваниям, симптомом которых является сухой кашель, относятся:

**ларингит** — воспалительный процесс, протекающий в гортани. При этом заболевании наблюдается только сухой, зачастую “лающий” кашель;

**трахеит** — воспаление слизистой оболочки трахеи. Может протекать на фоне ларингита (ларинготрахеита). Причиной заболевания, как и при ларингите, чаще всего являются стафилококковые и стрептококковые инфекции. Кашель при трахеите сухой, чаще проявляется в утреннее и ночное время.

Бронхит (в том числе бронхит курильщика) — диффузное воспаление слизистой оболочки бронхов без вовлечения паренхимы легких. Как правило, заболевание имеет вирусную или бактериальную природу. В начале заболевания преобладает сухой кашель, который сменяется влажным. Сухой кашель при бронхите глубокий, приглушенный.

## Травы

Известно большое количество рецептов народной медицины, которые могут помочь при появлении сухого кашля и существенно облегчить состояние.

Помните, что пропорции трав нельзя менять, ведь некоторые из растений в больших дозах являются ядовитыми для человеческого организма.

* 20 г мелко раскрошенных корневищ девясила залить стаканом воды и поставить на плиту. После закипания держать на огне еще около 10 минут. Пусть на время лечения питание у вас будет 4-кратным. Перед каждым приемом пищи за 20 минут нужно выпить 1 ст. ложку отвара. Отвар готовить ежедневно, чтобы он был свежий.

* В поллитровую банку кипятка добавить 1 ст. ложку сосновых почек. Поставить на два часа в теплое место. Употреблять независимо от приема пищи три раза в сутки по 1/4 стакана.

* Взять по 1 ст. ложке кипрея, тысячелистника, багульника болотного и мать-и-мачехи. Все эти травы смешать в отдельной посуде. 1 ст. ложку полученной смеси залить кипятком. Поставить на 60 минут в теплое место, накрыв крышкой. После этого полученный настой процедить и принимать по 1 ст. ложке три раза в сутки.

## Компрессы и растирания

* Нанесите на грудь больного мед, накройте хлопчатобумажным отрезом ткани, смоченным в водке. Накройте данный компресс полиэтиленовым пакетом и оберните грудь шерстяным платком.

* Нужно положить на грудь размятый вареный картофель или кожуру от него. Чтобы данный компресс был более эффективным, добавьте горчицу или мед. Проводят процедуру при первых признаках сухого кашля. Тогда компресс поможет уже к утру (если его сделать на ночь) и начнется влажный кашель.

* 1—2 картошки отварить в кожуре, размять и капнуть туда пихтового масла. Наклонившись над полученным горячим “пюре”, накрыться полотенцем и вдыхать пары не менее 10 минут (но не больше 20).

* Очень хорошо помогают растирания жиром (это может быть барсучий, медвежий, гусиный и другие виды) или эфирным маслом пихты. Растираться на ночь, после этого хорошенько укутаться и лечь спать. К утру должно стать значительно легче.

## Лечебные рецепты

* Вскипятить 200 г молока. После того как оно остынет до комнатной температуры, добавить чайную ложку качественного меда. Пить небольшими глотками 2—3 раза в сутки за 1 час до или через час после еды. Будьте осторожны! И мед, и молоко могут быть аллергенами. Если вы аллергик, то вам данное средство не подойдет, используйте другой метод.

* 5 луковиц небольшого размера очистить и варить в молоке (0,5 л) до размягчения. Молока при этом становится не больше стакана. Убрать из молока лук и после остывания до комнатной температуры добавить чайную ложечку меда. Принимать каждый час бодрствования по 1 ст. ложке.

* Бананы раньше не считались популярным средством, но сейчас многие удивляются эффективности данного продукта. Возьмите два спелых плода, очистите и раздавите ложкой. Залейте полученное пюре стаканом кипятка. Смешайте до получения однородной массы. Некоторые используют блендер, но все-таки лучше это сделать вручную. Употребляйте полученную смесь по 2 ст. ложки не менее десяти раз в сутки.

* Если сухой кашель является последствием вирусного заболевания, то хорошим методом будет кипяченое теплое молоко с пищевой содой (0,5 ч. ложки). Нескольких раз в день будет достаточно.

* Используйте ингаляции. Можно брать щелочную минеральную воду или раствор пищевой соды. Если вы без проблем переносите эфирные масла, то пусть вашим выбором будут эвкалипт, мята, лаванда или кедр. Добавьте две капли масла в два стакана кипятка и дышите паром.

ПО ПОВОДУ

## Профессионал

*Когда смотрю по ТВ матчи чемпионата страны по футболу, невольно сравниваю их с матчами первенства Союза. К сожалению, сравнение не в пользу нынешних футболистов.*



Особое внимание я всегда уделял игре полузащитников, которые считаются мотором любой команды.

Об одном образцовом полузащитнике минского “Динамо” я и хочу напомнить всем любителям футбола. **Вениамин Владимирович Арзамасцев** — мастер спорта СССР, бронзовый призер чемпионата СССР, финалист Кубка Союза, заслуженный тренер Беларуси, награжден Почетным знаком Белорусской федерации футбола.

Я знаком с ним давно, с тех пор, когда работал администратором футбольных раздевалок на минском стадионе “Динамо”. Очень интеллигентный человек. О таких говорят: с интеллигентностью родился, и она — на всю жизнь. К слову, на футбольном поле Вениамин Арзамасцев в единоборствах никому не уступал. Был напорист и техничен.

В футбол Вениамин начал играть еще в 1995 году, а вообще в составе минского “Динамо” в чемпионатах и Кубках Союза он провел около 240 матчей.

Уверен, что его игру вспоминают многие. После ухода из большого футбола Арзамасцев стал тренером. В 1983 году под его руководством минское “Динамо” завоевало бронзовые медали чемпионата СССР. Уже много лет тренирует юных футболистов.

Пусть еще долгие годы Вениамин Владимирович не уходит из нашего футбола. Белорусский футбол нуждается в таких профессионалах!

**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран спорта, заслуженный тренер Беларуси.**

ШАХМАТЫ

## Из шахматной классики
*Леонид Куббель*

**Белые:** Кph3, Фа5, Сh1, Кf3, Кf5, п. d3 (6).
**Черные:** Кf4, Лe7, Кg7, Кh2 (4).
**Мат в 2 хода.**




Предлагаем вниманию читателей двухходовую задачу выдающегося мастера шахматной композиции Леонида Куббеля. Попробуйте найти ее решение. Свои ответы присылайте по адресу: **220030 Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты “Народная Воля”, “Шахматы”.**

## Две медали Славы Зарубицкого

В Батуми прошел чемпионат Европы по шахматам среди юношей и девушек в возрастных группах до 8, 10, 12, 14, 16 и 18 лет. Соревнования проводились по швейцарской системе в 9 туров. От нашей республики в чемпионате выступили 24 юных спортсмена. Наибольшего успеха добился 12-летний оршанец Вячеслав Зарубицкий. Он показал блестящий результат — 7 очков из 9 возможных, что принесло ему бронзовую медаль. Напомним, что на чемпионате мира, проходившем в августе в Дурбане (ЮАР), Зарубицкий завоевал серебряную награду. Замечательное достижение! Из остальных наших спортсменов следует отметить игру 14-летнего минчанина Михаила Никитенко. До последнего тура он претендовал на самые высокие места. Лишь поражение в заключительном туре перечеркнуло надежды. В итоге Никитенко, набрав 6,5 очка, финишировал на шестом месте.

У девушек лучший результат показала минчанка Мария Колядич, выступавшая в турнире 18-летних. Она набрала 6,5 очка и заняла пятое место. По 6 очков у Ольги Баделько (Могилев) в турнире девочек до 12 лет и минчанки Веры Прокопук (14 лет).

## Сохранил чемпионский титул

В Сочи завершился матч за звание чемпиона мира между обладателем шахматной короны норвежцем Магнусом Карлсеном и претендентом, экс-чемпионом мира Вишванатаном Анандом (Индия). 24-летний норвежец одержал убедительную победу со счетом 6,5:4,5 и стал двукратным чемпионом мира.

## Сергей Сарычев — чемпион столицы

В чемпионате Минска по шахматам среди мужчин очень сильно выступил кандидат в мастера Сергей Сарычев. В 9 встречах он набрал 8,5 очка и завоевал звание чемпиона. Серебряная медаль у Сергея Тальмы — 7 очков. Оба победителя завоевали право выступить в чемпионате Беларуси (I-я лига) 2015 года.

САМЫЙ—САМЫЙ

## Самые ядовитые вещества

***Яды окружают нас повсюду. Люди даже не догадываются, как часто встречаются с ними в повседневной жизни.***

К примеру, содержимое банки консервов, в котором поселилась палочка Clostridium botulinum, вполне может свести нас в могилу. А разбившаяся люминесцентная лампа — вызвать сильнейшее отравление. Даже уколы ботокса, которыми увлекаются современные красотки, не так безобидны, как кажется. Сегодня мы познакомим вас с некоторыми самыми страшными ядами.

### Цианид

Идеальный убийца! Действует сразу, неважно, взяли вы его в рот или просто к нему прикоснулись.

Он связывается с железом в крови, блокируя тем самым его способность переносить кислород к клеткам крови. Достаточно совсем немного цианида, чтобы отправиться в мир иной.

Этот яд известен с древности. В наши дни его использовали для казни преступников. Сейчас цианид применяют в промышленности для производства пластика и золота. Он незаменим, хоть и опасен.

В природе цианид встречается в косточках почти всех садовых деревьев, например вишни, абрикоса, миндаля. Поэтому будьте осторожны: если съесть их слишком много, можно и отравиться.

### Ботулотоксин

Сильнейший яд, используемый для получения ботокса. Того самого, который красавицы во всем мире используют для продления молодости. К слову, в ботоксе доза яда минимальна, но даже она может вызвать серьезные последствия.

Лицевые мышцы, в которые ввели препарат, могут навсегда деформироваться. Но косметический дефект не так страшен. После неудачных инъекций ботокса могут начаться проблемы с глотанием, и тогда понадобится помощь хирургов.

Ботулотоксин может образоваться в обычных домашних консервах. После дегустации таких заготовок развивается ботулизм — серьезное заболевание, после которого наступают паралич и смерть.



Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск,
вул.Энгельса, 34а.
Тэл.рэкламнага аддзела:
(017) 3286609,
прыёмная: тэл./факс
(017) 3286871
3286906.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

ISSN 2071-9647
9 772071 964000 14096

Падпісныя індэксы: 63222 — для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 — для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 03.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 8.12.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25510 экз. Заказ №4944.